ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

1 ВЕРАСНЯ 1995 г. № 35 (3807) Кошт 2 000 руб.





Вас не захапляе адважная легкадумнасць тых, хто сёння ўсё-такі вырашае здабыць — мо і не дыплом, а сякую-такую акцёрскую налаўчонасць? Увесь разліковы, цвярозы свет супраць гэтай няпэўнай ды цяжкой прафесіі. Нікога не цісне мацней журба ды роспач, як беспрацоўнага артыста. Ды дзень пры дні адчыняюцца дзверы ўстановаў, дзе "на артыстаў" вучаць. Падаюцца заявы. Ліюцца або не ліюцца слёзы на іспытах... Хоць вынік — дыплом як сведчанне права на прафесію — нічога не гарантуе...

На нашых здымках — сцэны з дыпломных спектакляў сёлетніх выпускнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў. Трапілі на іх якраз тыя, каму дыпломы нічога не ўгарантавалі. Ні Людміле Сідаркевіч, ні Наталлі Клімчык, ні Любові Манкевіч, ні Джамалу Цытруашвілі... Нічога? Значыць — тэатра. Бо толькі тэатра прагнулі ды жадалі яны, супраціўляючыся няпэўнасці ды цяжару акцёрскай прафесіі.

**ЖАНА ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*





ЛіМ
ЧАСАПІС



## ІМЯ ЯГО І ДУША ЯГО — У ХОРЫ...

**Свой дзень нараджэння Генадзь Іванавіч Цітовіч звычайна адзначаў, як гаварыў ён сам, — "у лодцы", у вандроўцы па родным краі. І сёння яго, нястомнага вандроўніка, збіральніка песенных скарбаў, памятаюць у розных кутках Беларусі, якую ён абышоў-аб'ездзіў за доўгае сваё жыццё... 7 жніўня слыннаму рыцару беларускай народнай песні, фалькларысту і выдатнаму арганізатару харавой справы Генадзю Цітовічу споўнілася б 85.**

**Многія нашы сучаснікі памятаюць яго неардынарную постаць, успамінаюць асобу гэтага высокаэрудзіраванага і надзвычай сціплага чалавека, які атрымаў бліскучую адукацыю ў Вільні (універсітэт, кансерваторыя), запісаў і апрацаваў тысячы беларускіх песень, якія жывуць у рэпертуары прафесійных выканаўцаў розных пакаленняў, розных стыляў. Генадзь Цітовіч — гэта ўжо гісторыя. І адна з найярчэйшых старонак гэтай гісторыі — Дзяржаўны народны хор, які стварыў і доўгі час нязменна ўзначальваў маэстра. Сёння хор мае званне акадэмічнага і носіць імя свайго стваральніка. На чале калектыву — таленавіты, дастойны пераемнік і вучань "бацькі хору" — Міхась Дрынеўскі. Калі пад ягоным кіраўніцтвам запявае славуты хор імя Цітовіча, здаецца, гучыць у ім і шчыры голас душы "бацькі Генадзя"...**

**С. Б.**

## ДА ПЕРШАКРЫНІЦ!



*У слаўным старым месце пражскім.*

*Фота аўтара.*

**Адкуль пачынаецца "Свята беларускага пісьменства і друку"? І з Полацка, і з Турава, і з Прагі. Нядаўна паклон ад Прагі Чэшскай прывезлі ў Мінск удзельнікі міжнароднай канферэнцыі "Руская, украінская і беларуская эміграцыя ў Чэхаславаччыне між дзвюма сусветнымі войнамі. Вынікі і перспектывы праведзеных даследаванняў. Фонды Славянскай бібліятэкі і пражскіх архіваў".**

**Арганізавалі сустрэчу навукоўцаў з Амерыкі, Нямеччыны, Расіі, Украіны, Беларусі Славянская бібліятэка пры Нацыянальнай бібліятэцы Чэшскай Рэспублікі, Славянскі інстытут Акадэміі навук і Таварыства па вывучэнні Усходняй і Сярэдняй Еўропы ў Чэшскай Рэспубліцы. Гэтая падзея прайшла пад апекай міністра замежных спраў і міністра культуры Чэшскай Рэспублікі і была прымеркавана да нядаўняга 70-годдзя Славянскай бібліятэкі, заснавальніцай якой была і наша, беларуская кніга.**

**Сярод 130 удзельнікаў канферэнцыі ад дзяржаў, якія клапоцяцца вывучэннем, даследаваннем сваіх першакрыніц, было пяць чалавек з Рэспублікі Беларусь, якія трапілі ў Прагу, можна сказаць, самапасам, толькі дзякуючы Фонду Сораса. Гэта Г.Сурмач, І.Шаблоўская, Л.Мірачыцкі, С.Цілі, С.Панізнік.**

**Аб далейшай магчымасці даследавання беларускай прысутнасці ў Празе, на другой радзіме Францыска Скарыны, сябры дэлегацый з Мінска гутарылі ў пасольстве Рэспублікі Беларусь, у Суполцы сяброў народаў Усходу, з супрацоўнікамі Беларускай рэдакцыі радыёстанцыі "Свабода", якая зараз месціцца ў Празе.**

**Гісторыя чэшска-беларускіх узаемадачыненняў налічвае амаль 600 гадоў, і Прага з'яўляецца адной з багацейшых першакрыніц для вывучэння нашага культурнага мацерыка.**

**Сяргей ПАПАР**

*Гэта было*

# А ПАЧЫНАЛАСЯ ВОСЬ ТАК...

Колькі гадоў таму, помніцца, па Цэнтральным (тады) тэлебачанні дэманстраваўся шматсерыйны амерыканскі дакументальны фільм "Невядомая вайна". Як гэта ні дзіўна, невядомай для амерыканцаў, дарэчы, нашых саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі, аказалася, была вайна, што чатыры доўгія гады вялі паміж сабой СССР і фашысцкая Германія; вайна, што прынесла нам незлічоныя людскія і матэрыяльныя страты.

Дзіўная прырода чалавечых асацыяцый — фільм гэты раптам прыгадаўся з нагоды 50-годдзя з дня (2 верасня 1945 г.) падпісання Акта аб безагаворачнай капітуляцыі і, як прынята лічыць, заканчэння 2-й Сусветнай вайны. Прыгадаўся, бо для дзесяткаў мільёнаў грамадзян былога Савецкага Саюза вайна з Японіяй, у якую СССР, па дамоўленасці з саюзнікамі, увязаўся ў жніўні 1945 года, засталася, па сутнасці, таксама невядомай і амаль не пакінула прыкметнага следу ў гістарычнай памяці народа.

Нават у наш час рассакрэчання многіх, некалі звышсакрэтных архіўных дакументаў, застаецца невядомым, ці амаль невядомым механізм стварэння пасля вайны ва Усходняй Еўропе і на Далёкім Усходзе краін-сатэлітаў сталінскай імперыі з падабранымі ў крамлёўскіх кабінетах і пастаўленымі на чале народаў, "што выбралі сацыялістычны шлях развіцця", правадырамі-марыянеткамі.

Аднаго з іх вы бачыце на гэтым малавядомым архіўным здымку, зробленым у 1946 годзе ў штабе адной з нашых далёкаўсходніх армій, якой камандаваў генерал-палкоўнік І.Чысцякоў. Угледзьцеся ў твар і постаць маладога карэйца (другі злева), што так прыніжана ўсміхаецца, выслухоўваючы "парады" генерала. Гэта не хто іншы, як Кім Ір Сен, будучы "вялікі правадыр" народа Паўночнай Карэі, афіцыйна ўзведзены там у культ бажаства.



Што і казаць, і ў Крамлі, дзе, як стала цяпер вядома, доўга падбіралі кандыдатуру на "пасаду" правадыра Паўночнай Карэі, і тут, у армейскім штабе, дзе яму даводзілася атрымліваць чарговыя інструкцыі, не памыліліся ў сваім выбары. Праз дзесяцігоддзі, калі камуністычная ідэалогія ці не ва ўсіх краінах, дзе яна панавала, была выкінута на сметнік гісторыі, у свеце захаваўся амаль адзіны (калі не лічыць, праўда, Кубы) камуністычны рэлікт — кімірсенаўскі рэжым Паўночнай Карэі.

А пачыналася ўсё вось так...

**М.ЗАМСКІ**

*Пошта*

# АДЗІН З СОШКАЙ...

Пры агульным жабрацтве нашага насельніцтва і ў першую чаргу пенсіянераў, ёсць катэгорыя грамадзян, якія ў гэтыя цяжкія часы адчуваюць сябе вельмі няблага. Я маю на ўвазе шматлікае чыноўніцтва, якое жыравала і ў камуністычныя часы, і зараз. Вось і ў апошняе, вяснове павышэнне зарплаты — мізэрнае для настаўнікаў, медыкаў, артыстаў, музыкантаў, для многіх работнікаў выканаўчай улады абярнулася значным прыбаркам — у 2—2,5 раза, альбо да паўтара-двух мільёнаў рублёў у месяц. Я не кажу ўжо пра тое, што чыноўніцтва цяпер колькасна пабольшала. Калі раней усімі справамі ў вобласці кіраваў, па сутнасці, адзін аблвыканкам, то сёння кіруюць і кантралююць тры паралельныя структуры — апараты аблвыканкама, абласнога савета ды Адміністрацыі прэзідэнта.

У гэтай сувязі мне падаецца вельмі прыватным учынак інспектара па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Брэсцкага аблвыканкама Леаніда Несцерчука, які выклікаў шырокі рэзананс не толькі ў Брэсце, а і за яго межамі. Ён напісаў ліст прэзідэнту краіны А. Лукашэнку, у якім адмовіўся ад даплаты ў паўмільёна рублёў, матывуючы гэта тым, што не павінна быць добра апаратнаму работніку, калі вакол пакутуе народ. Гэтым прынцыпам ён кіраваўся і раней, калі ў 1989 годзе таксама адмовіўся ад штомесячнай даплаты з тым разлікам, каб "розніца" ў зарплаце пайшла на карысць рэспубліканскага анкалагічнага цэнтра. Тады гэты крок яму не даравалі. Ён быў адхілены ад займаемай пасады намесніка начальніка ўпраўлення народнай адукацыі аблвыканкама. Але Леанід Міхайлавіч выстаяў, многа добрых спраў зрабіў па адналенні народных святыняў, у прыватнасці, выратаванні разбураных будынкаў Свята-Пакроўскай царквы і помніка-капліцы "Доблестным продкам 1812 года" ў Гарадзечне, на сваёй радзіме.

Пабольш бы такіх "чыноўнікаў".

**М. КАВАЛЁЎ**

*Прэс-канферэнцыі*

# "МІНСКАЯ СПРАВА"... ЯКІМ БУДЗЕ ПРАЦЯГ?

Апошнім часам усё часцей з'яўляюцца падставы задаваць пытанне — у якой дзяржаве мы жывём? У той, што, аб'явіўшы сябе суверэннай, імкнецца як мага хутчэй заняць годнае месца ў міжнароднай цывілізаванай супольнасці, ці ў краіне, якая гатова жыць па нормах тых дзяржаў, дзе пануе беззаконне, парушаюцца правы чалавека, адмаўляюцца элементарныя нормы маралі. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што назіраецца акурат апошняе. Пацвярджэннем таму нямала прыкладаў і са сферы літаратурнай і журналісцкай дзейнасці, кнігавыдання. Прыгадайма, як не так даўно, па сутнасці, травілі Святлану Алексіевіч за яе дакументальна-мастацкія кнігі, у прыватнасці, за аповесць "Цынкавыя хлопчыкі", у якой праўдзіва адлюстравана ўся ганебнасць афганскай авантуры, паказана, да чаго яна прывяла, як адгукнулася ў душах тых, хто не па сваёй волі вымушаны быў ісці ваяваць.

Успомнім і прыклад зусім "свежы" — гэтым разам ледзь не контрразведка пачала шукаць аўтара паэмы "Лука Мудзішчаў".

Увагай праваахоўных органаў не абыдзены і пісьменнік Валерый Сарока. Ён, як вядома, з'яўляецца аўтарам шасці кніг ("Віцебская справа, ці Двухаблічная Феміда" ў двух кнігах, "Быльля супрацоўнікі", "Тагільская бездань" і іншых). Напісаны яны бескампрамісна і паказваюць як само дно нашага грамадства, дзе знаходзяцца тыя, хто адбывае пакаранне, так і далёка не ў лепшым свеце дзейнасць праваахоўных органаў і асобных парушальнікаў закона, што сустракаюцца сярод іх. І напісана гэта ўсё не па расказах іншых людзей. Сам Валерый Ларыёнавіч быў асуджаны прыгаворам судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага Савета Латвійскай ССР ад 11 красавіка 1988 года быццам за парушэнне заканнасці пры расследаванні крымінальнай справы (той самай, "віцебскай...") да чатырох гадоў пазбаўлення волі. Дарэчы, цяпер па пратэсту старшыні Вярхоўнага суда Латвійскай Рэспублікі справа прызнана незаконнай і накіравана ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Аднак рэабілітаваць В.Сароку ніхто не спяшаецца.

Знаходзячыся ў зняволенні, Валерый Ларыёнавіч вёў дзённік, які і стаў падставай для напісання цыкла аповесцяў. А гэта тая праўда, якая, як кажуць, вочы коле. Асобныя з сапраўдных герояў не маглі не пазнаць сябе ў літаратурных персанажах, а ў выніку — зварот у суд. Здавалася б, акурат суд і разбярэцца справядліва, што і да чаго, будзе прытрымлівацца простай ісціны: у літаратурнага твора свае законы і яго нельга судзіць. Дарэчы, В.Сарока як бы прадчуваў магчымыя непрыемнасці, таму ў пачатку кнігі "Віцебская справа"..." агаварыўся: "за магчымае выпадковае супадзенне пасад і прозвішчаў аўтар адказнасці не нясе".

Тым не менш, былому занальнаму пракурору Беларускай транспартнай пракуратуры, а цяпер пісьменніку В.Сароку, можна сказаць, яго калегі інкрымінуюць "знявагу гонару і годнасці" аднаго з супрацоўнікаў Пракуратуры Рэспублікі Беларусь... Сапраўды, у кнігах ёсць чалавек з падобнымі анкетнымі дадзенымі. Аднак ніхто не збіраецца прымаць пад увагу, што ў творах фігуруе мастацкі персанаж, а тым самым вобраз абагульнены, збіральны...

Пра гэта гаварылася на прэс-канферэнцыі В.Сарокі "Правы пісьменніка — пісаць праўду. Свабода слова — гарант дэмакратыі", якую Валерый Ларыёнавіч правёў гэтымі днямі ў Доме літаратара. Прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі, якія сабраліся з гэтай нагоды, змаглі ўважліва паслухаць і самога В.Сароку, і яго даверaную асобу пісьменніка Мар'яна Віжа, і сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоля Жалязоўскага, і рэдактара кніг В.Сарокі журналіста Сяргея Аладзьева і яго паплечнікаў. Як вядома, зараз Валерый Ларыёнавіч з'яўляецца дырэктарам аграпрадпрыемства "Ранет-92", а таксама старшынёй партыі "Хрысціянска-Дэмакратычны выбар".

Прыводзіліся і прыклады таго, што беззаконне супраць пісьменніка не спыняецца.

Тым самым ці не стварaецца свайго роду "мінская справа"? Вось адно толькі цікава: які працяг у яе будзе? Хацелася ўсё ж, нягледзячы ні на што, спадзявацца, што цывілізаваны. Творы літаратуры і мастацтва не судзяць.

**Н.К.**

***3 верасня наша дзяржава другі раз адзначае Дзень беларускага пісьменства і друку. На ніве асветніцтва ў розныя часы працавала нямала таленавітых беларусаў. Адны з іх звязалі сваю падзвіжніцкую дзейнасць з Бацькаўшчынай, другія апынуліся за межамі яе. Тым не менш, яны працавалі не толькі на іншыя народы, але і на свой народ, праслаўляючы яго як народ таленавіты. Пацвярджэнне таму жыццёвы шлях Сімяона Полацкага.***

# САМУІЛ, СЫН ПОЛАЦКА

Партрэт, які даўно стаў хрэстаматыйным... Удумлівы, засяроджаны, з даволі прыкметнымі маршчынамі твар немаладога чалавека. Цяжар пражытага сказваецца ў стомленым позірку вачэй, спагадных і мудрых. Рукі, складзеныя крыж-накрыж, абаперліся на кнігу. Адразу відочна: гэта тое адзінае, што звязвае яго з навакольным светам, далучае да тлуму паўсядзённых клопатаў і спраў. Толькі духоўную радасць ён можа дазволіць сабе на зямлі, усё ж астатняе для яго даўно, па сутнасці, не існуе. Колькі ўжо часу ён лічыць за лепшае прамаўляць з адным Богам, праводзячы ў манаскай келлі гадзіны, якія пераходзяць у дні, месяцы, гады... А што перад намі чарнец — ніякага сумнення. Пра гэта сведчыць яго апратка.

Такім паказаў на гравюры пачатку XIX стагоддзя невядомы мастак Сімяона Полацкага. А вось наколькі гэтая выява адпавядае сапраўднасці, цяжка сказаць нешта пэўнае. Партрэтаў С. Полацкага, выкананых пры яго жыцці, не захавалася. Хаця магло стацца і так, што яны ёсць і недзе згубіліся, пакрыліся архіўным пылам, і той невядомы аўтар, які браўся за ўвасабленне вобліку выдатнага пісьменніка, філосафа, асветніка, педагога меў іх пад рукой.

Магчыма, і меў... Але хутчэй працаваў інтуітыўна, імкнучыся паказаць таго, хто з'яўляўся адным з выдатных людзей свайго часу і пакінуў вялікі след у гісторыі, прынамсі, двух народаў — беларускага і рускага.

Сёй-той па звычцы і сёння гатовы "рускага" ставіць на першае месца. Як быццам, падставы для гэтага ёсць. С. Полацкі — першы рускі прафесійны паэт... Ён жа — першы рускі прафесійны драматург... Ён — выхавацель царскіх дзяцей... І ля вытокаў Славяна-грэка-лацінскай Акадэміі стаяў не хто іншы, а Полацкі. Менавіта Полацкі распрацаваў уласны праект першай вышэйшай навучальнай установы Расіі. Да ўсяго арганізаваў у Маскве першую свецкую друкарню, якая адзіная тады на Русі атрымала права выдаваць кнігі без спецыяльнага дазволу патрыярха. Прыклады можна доўжыць...

Але той жа Полацкі, які лічыўся сваім чалавекам у Маскве, калі адчуў, што сілы назаўсёды пакідаюць яго, паспяшаўся скласці духоўны тастамент. Рупіўся не толькі таму, што тым часам існавала падобная завядзёнка. Непакоіўся, каб аказаць паслугу Радзіме, любай сэрцу Беларусі. А паколькі меў немалы дастатак (маёмасць ацэньвалася ў шэсцьсот рублёў золатам і семсот срэбрам), паруліўся значныя сумы перавесці Куцеінскаму, Віцебскаму, Менскаму, Дзісненскаму, Мёрскаму, Святадухаўскаму ў Вільні манастырам... І, вядома ж, не забыўся пра Полацкі манастыр. Ды і як забыцца мог, калі Полацк — яго радзіма. Дарэчы, сапраўднае прозвішча яго зусім не Полацкі. І імя не Сімяон, а Самуіл. Самуіл, сын Полацка...

Імя, дадзенае Полацкаму пры нараджэнні, стала вядома даследчыкам толькі ў пачатку нашага стагоддзя. А вось наконт імені па бацьку па-ранейшаму меркаванні разыходзяцца. І, як ні дзіўна, пэўную блытаніну тут унёс сам Полацкі. Доўгі час яго называлі Емяльянавічам. З лёгкай рукі аднаго з першых даследчыкаў яго жыцця і дзейнасці І. Татарскага. А той, у сваю чаргу, адштурхоўваўся ад чалабітнай, накіраванай некалі Полацкім цару Аляксею Міхайлавічу: "Выехал на твое великого государя имя из Литовския земли брат мой единоутробный Иоанн Емеяльянов сын". А калі родны брат Емяльянавіч, дык, лагічна, такое імя па бацьку меў і сам Полацкі. Але ж адшуканы і матэрыялы, у якіх ён называе сябе Гаўрылавічам. Магчыма, бацька меў два імені? У рэшце рэшт цяпер пішуць Самуіл Гаўрылавіч...

Не ўсё проста і з сапраўдным прозвішчам Полацкага. Яно двайное Пятроўскі-Сітняновіч. Праўда, сустракаецца і варыянт Сітніяновіч. Другое прозвішча бацькава, першае — айчыма, які выхоўваў Самуіла з маленства.

Нарэшце, пра час нараджэнне Полацкага. Ёсць меркаванні, што ён з'явіўся на свет у снежні. Толькі якога года? Пагадзіліся на снежні 1629-га. Тут сапраўды ўжо дапамог сам Полацкі. У адным з яго вершаў ёсць развагі, як у 1656 годзе ён пастрыгся ў манахі:

**Бых же аз инок в четвертой седмицы**
**Лет моих, токмо кроме единицы.**

"Седміца" — сумнення не выклікае — сем. А далей дастаткова зусім простага матэматычнага падліку. Сем множыцца на чатыры, адымаецца адзінка і атрымліваецца 27 гадоў — узрост, калі Полацкі і стаў манахам. А паколькі, яшчэ раз нагадаем, адбылося гэта ў 1656 годзе, дык лёгка атрымаць і год нараджэння.

Бацька Самуіла належаў да заможных палачан, не беднымі з'яўляліся і Пятроўскія. Хутчэй за ўсё адносіліся да купецкага саслоўя. Як, дарэчы, і Скарыны, чый род даў знакамітага першадрукара. Верагоднасць гэтага пацвярджае і "Полацкая рэвізія 1552 года". Згодна ёй, Пятроўскія жылі непадалёку ад Скарынаў. Меркаваць так можна па распісанай абароне Высокага замка ў згаданай "рэвізіі". На выпадак нападу ворагаў кожная сям'я мела свой участак сцяны, т. зв. гародню. Цытую: "Подле тое вежы две городни мещански — з великого посаду. Затем городня Тяпинских. Затем городня Митковичей. Затем пять городен игумены Полоцкого. Затем городня мещан Петровских". Напрошваецца толькі ўдакладненне. "З великого посаду" — маецца на ўвазе сям'я Скарынаў, якія і жылі ў самім пасадзе. А Пятроўскія, як бачна, знаходзіліся з імі ў годным суседстве.

Дробязь, але істотная. Відочна, з самага маленства Самуіл знаходзіўся ў асяроддзі, якое ведала сабе цану, а таму імкнулася даць дзецям належную адукацыю. Хутчэй за ўсё хлопчык спачатку вучыўся ў так званай брацкай школе Багаяўленскага манастыра. А затым яго шлях пралёг на Украіну, у вядомую Кіева-Магілянскую калегію. Гэтая навучальная ўстанова карысталася вялікім аўтарытэтам у праваслаўных, у ёй давалі ўсебаковую падрыхтоўку. У калегіі існавала прадуманая, зладжаная сістэма адукацыі. У ёй мелася восем класаў, што дзяліліся на малодшае аддзяленне з чатырох класаў і адпаведна сярэдняе і старэйшае па два класы. Навучанне працягвалася ад дванаццаці да чатырнаццаці гадоў. А выбару прадметаў і сёння, бадай, можна пазайздросціць!

Чаго толькі не выкладалі! Славянскую, грэчаскую, лацінскую, польскую мовы, рыторыку, граматыку, філасофію, арыфметыку, геаметрыю, астраномію, багаслоўе. А яшчэ музыку, а яшчэ піітыку. Навучэнцы на працягу навучання мелі не аднолькавы статус. У малодшых і сярэдніх аддзяленнях яны называліся спудэямі, а ў старэйшых — студэнтамі. Адпаведна дыдаскаламі і прафесарамі былі выкладчыкі.

Пра выкладчыкаў... Сярод іх працавала нямала лепшых людзей свайго часу. Такіх як Інакенцій Гізэль... Гэта ён, выкладаючы натурфіласофію, далучаў сваіх выхаванцаў да ідэй Каперніка. Акрамя таго, Гізэль фактычна стаяў ля вытокаў закона захавання матэрыі і энергіі... Знакамітымі былі ў тагачасным навуковым асяроддзі і Епіфаній Славінецкі, Лазар Барановіч, які, дарэчы, лічыў Самуіла сваім вучнем. Ды і Ігнацій Іяўлевіч, калі перабярэцца ў Полацк, не забудзе пра яго.

А пакуль настойлівае авалодванне ведамі. Не сказаць, каб у калегіі панавала муштра, але што патрабаванні прад'яўляліся суровыя і строгія — несумненна. Давodзілася шмат зубрыць розныя богаслужэбныя тэксты, завучваць доўгія малітвы. Але ж прадстаўлялася і мажлівасць дасканала авалодаць рознымі мовамі. А яшчэ Самуіл, як і іншыя, далучаўся да сакрэтаў паэзіі. Яго аднолькава цікавіла і тэхніка вершаскладання, і паэзія як творчы працэс. Яшчэ ў 1648 годзе Самуіл зрабіў адзін з першых сваіх канспектаў па тэорыі паэзіі, які, дарэчы, захаваўся. На гэты час прыпадае і першы вядомы верш Самуіла "Акафіст прасвятой багародзіцы". Праўда, у творы яшчэ не адчуваецца аўтарскай самастойнасці, гэта звычайнае рыфмаванне пэўных царкоўных выразаў. Не больш самастойнасці і ў вершы "Канон", таксама напісаным у 1648 годзе.



Сімяон ПОЛАЦКІ

У калегіі Самуіл, як прызнаваўся ён у прадмове да сваёй кнігі "Рыфмалагіён", правёў "две седмицы". Значыць, навучанне працягвалася 14 гадоў і закончылася ў 1651 ці 1652 годзе. На той час малады дыдаскал (а такую прафесію ён і атрымаў) меў прыкладна 22 гады. Самуіл вырашыў працягваць вучобу на філасофскім факультэце Віленскага універсітэта. У няблізкую Вільню яго падштурхнула жаданне "пресладостные и душеполезные цветы услаждение душеживительного вкусить". Менавіта так ён тлумачыць матывіроўку гэтага ў прадмове да яшчэ адной сваёй кнігі — "Ветраград шматкаляровы".

А паколькі выбар зрабіў свядома, то і працаваў (менавіта працаваў!) настойліва і апантана. Аб шырыні яго тагачасных інтарэсаў даюць уяўленне ўжо назвы асобных канспектаў, што захоўваюцца цяпер у Архіве старажытных актаў у Маскве — "Палемічнае багаслоўе", "Разважанні Фамы Аквінскага", "Багаслоўскія разважанні" і іншыя.

Несумненна, вучобу закончыў бы паспяхова, калі б не тагачасныя палітычныя падзеі. У 1654 годзе, як вядома, пачалася вайна Расіі супраць Рэчы Паспалітай. Маскоўскае войска імкліва прасоўвалася наперад, заваёўваючы горад за горадам. Хутка маскоўцы апынуліся ля сцен Вільні. На другі ж дзень пасля заняцця яе Самуіл пакінуў горад і вярнуўся ў родны Полацк, дзе застаўся без пэўнага занятку. На шчасце, хутка ігуменам Багаяўленскага манастыра стаў добра вядомы і знаёмы яму па Кіеўска-Магілянскай калегіі Ігнацій Іяўлевіч. Колішні прафесар вольных мастацтваў і ў новай ролі адчуваў сябе ўпэўнена. Настойліва шукаў аднадумцаў, якім мог бы дазволіць выкладаць у брацкай школе. Неяк, калі праходзіла велікоднае богаслужэнне, ён заўважыў у натоўпе свайго былога вучня. Пасля службы разгаварыліся. Тут і высветлілася, што становішча ў Самуіла незайздроснае. Выслухаўшы ўважліва, Іяўлевіч нечакана прапанаваў яму стаць манахам.

Можна толькі здагадвацца, што было ў Самуіла на душы ў тыя, такія няпростыя для яго дні. Безумоўна, прапанова адкрывала немалую перспектыву. Іяўлевіч прама сказаў, што калі стане манахам, зможа працаваць выкладчыкам у брацкай Багаяўленскай школе. А гэта, не сакрэт, магчымасць бязбеднага існавання, стварэння ўмоў для заняткаў любімай справай. А Самуіл жа ўжо вызначыў пэўна — прысвяціць сябе служэнню літаратуры, мастацтву. Разам з тым трэба было як бы перасіліць самога сябе, адмовіцца — свядома, канчаткова — ад многіх зямных выгод. Ці не самае галоўнае — назаўсёды застацца адзінокім. Адзінокім? Але ж, разважаў Самуіл, хіба можа быць адзінокім чалавек, які цалкам аддаецца духоўнай справе, маральнаму ўдасканаленню?

Якім цяжкім ні быў для яго гэты крок, ён у рэшце рэшт яго зрабіў. 8 чэрвеня 1656 года перастаў існаваць Самуіл Пятроўскі-Сітняковіч, з'явіўся чарнец Сімяон.

А тым часам Расія прадпрымала далейшыя захады, для ўмацавання сваёй дзяржаўнасці. У маі 1656 года яна аб'явіла вайну Швецыі. Аляксей Міхайлавіч вырашыў не адседжвацца ў сталіцы, а знаходзіцца ў войску. Яно, як вядома, наблізілася да Полацка. Прыехаўшы ў горад на Дзвіне 5 ліпеня, цар прабыў там да 15 ліпеня. Ігнацій Іяўлевіч, каб засведчыць сваю прыхільнасць і адданасць яму, арганізаваў на пад'ездзе цара да горада ўрачыстую сустрэчу. Аляксею Міхайлавічу найбольш спадабалася, калі 12 вучняў брацкай школы на чале з Сімяонам прачыталі вершаванае вітанне, так званыя "Метры на прышэсце вялікага гасудара Аляксея Міхайлавіча".

"Метры" пісаліся не адным Сімяонам, яму дапамагалі Іяўлевіч і Філафей Утчыцкі. Аўтарства было калектыўным, бо многім хацелася засведчыць павагу да цара. Сімяон жа (невядома, ці па ўласнай ініцыятыве, а, можа, па просьбе ігумена) за некалькі дзён да гэтай сустрэчы нават з'ездзіў у Віцебск, дзе таксама выступіў перад Аляксеем Міхайлавічам:

**Витаем тя, православный царю,**
**праведное солнце,**
**Здавно бо век прагнули тебе**
**души наши и сердце.**
**Витаем тя, царю,**
**от востока к нам пришедшего,**
**Белорусский же от нужды народ**
**весь освобождашагося.**

Але і гэты твор Сімяон не столькі сам пісаў, колькі... перафразіраваў "Прасфоніму", у якой гучалі падобныя параўнанні, толькі яны адрасаваліся кіеўскаму мітрапаліту. Што да самога звароту да цара, дык ён з боку Сімяона быў жаданнем звярнуць на сябе ўвагу. І не толькі на сябе. Разлічваў, што Аляксей Міхайлавіч не абыдзе гараджан увагай, у чым і не памыліўся. Яшчэ граматай ад 3 сакавіка 1655 года гасудар засведчыў права Багаяўленскага манастыра "владети в век неподвижно" новымі землямі, якія аддаў яму. У далейшым таксама падтрымліваў яго. З граматы ад 16 лютага 1657 года бачна, што цар у чарговы раз пацвердзіў права гараджан "владеть около города Полотеска землею



Кіева-Магілянская калегія

(Працяг на стар. 12)

Проза

Андрэй ФЕДАРЭНКА

# МІХАІЛ ІВАНАВІЧ



АПАВЯДАННЕ

УВЕСЬ КЛАС ВЕДАЕ, што яна кахае яго, і гэтага не могуць ёй дараваць.

Яна, сямікласніца Таня, — стройная, цемнавокая, выдатніца, на якую заглядаюцца хлопцы са старэйшых класаў, калі выпадае сумесны ўрок фізкультуры і яна паказваецца перад усімі ў сваім трыко і ў белай з зялёным маечцы; яна, якую яшчэ гэтым летам увечары на лаўцы можна было пацалаваць, "пажмакаць" і якая нікога цяпер да сябе не падпускае... Яна — і Міхаіл Іванавіч!

Ды проста "Міхаіл", з якога трэба смяяцца, кпіць, які, калі не ў гуморы, можа цэлы ўрок прамаўчаць, або можа, наадварот, цэлы ўрок расказваць анекдоцікі; якому ўжо за пяцьдзесят, у якога свой дом у блізкім горадзе, сварлівая жонка і трое дарослых незамужніх дачок; добры, непаваротлівы, падобны больш не на настаўніка, а на вясковага гультаяватага дзядзьку. Ды ён і гаварыць толкам не ўмее, гаворыць па-мясцоваму — ні па-руску, ні па-беларуску, — а сам выкладае родную мову і літаратуру. Ён — усіхні, легенда школы, ён вучыў іхніх бацькоў, гэта пра яго, смеючыся, расказваюць дзецям: "Пачакайце, дойдзеце да шостага класа, да Міхаіла, — ён вам мазгі ўставіць!"

Вось што такое "Міхаіл". І яго кахаць? Такой дзяўчыне?

Ён заходзіць у клас хвілін праз пяць пасля званка, няўклюдны, неяк бокам пралазіць у дзверы, абавязкова стукнецца плячом ці локцем аб вушак, са стосам сшыткаў, кніг пад пахаю, пачынае "раскладацца" на стале. Кнігі з году ў год, з класа ў клас адны і тыя ж, зацяганыя, зашморганыя, зачытаныя: Колас "Новая зямля", Багдановіч, Купала, чамусьці Пушкін, Гогаль, "Слоўнік беларускай мовы" Крапівы... "Расклаўшыся" (яго слоўца), Міхаіл Іванавіч прычэсваецца — далоняю закідвае з ілба на патыліцу доўгую пасму валасоў, загладжвае за вушы, тады дастае з кішэні шырокіх, заношаных і непрасаваных штаноў скамечаную насоўку і гучна трубіць-сморкаецца. Сёння ён добры.

— Учора дастаю платок, у шостым класе, толькі высмаркаўся і назад класці, у карман, а Васька: "Э-э, Міхаіл Іванавіч, пакладзіце на месца нашу трапачку!"

Рогат.

— У іх з дошкі трапачка прапала, дык ён, гад малы, думаў, гэта я забраў і сморкаюся ў яе.

Ён праходзіць між радоў, правярае, як зрабілі хатняе заданне. Каля таго, у каго пуста ў сшытку, пастаіць, памаўчыць.

— Ручка зламалася, Міхаіл Іванавіч, — заўсёднае апраўданне.

— Дык пісаў бы ножкаю.

Тані не глядзіць нават у сшытак, адразу выводзіць ёй у дзённіку прыгожы, з закручаным хвосцікам "пятак".

— Вось на каго раўняйцеся, чарты дзікія, — лагодна, задаволена кажа і йдзе далей.

Ах, лепш бы ён маўчаў!

Перад Таняю на парту падае запіска, у ёй малюнак — людзі з тонкімі штрышкамі, што азначаюць рукі-ногі, зліліся ў палавым акце. Да верхняга чалавека вядзе стрэлачка і падпісана "Міхаіл", да ніжняга такая ж стрэлачка і ўказана: "Т. Мяцельская". Таня, прыжмурыўшы вочы, азіраецца, пасміхаецца і камечыць паперку.

Рэдка, але бывае, што Міхаіл не ў гуморы. Калі не вывучылі на памяць верш, ці не перапісалі практыкаванне па мове. Тады пачынаецца самае цікавае. Настаўнік моўчкі сядае за стол, разгортвае адну са сваіх кніг і чытае. У класе страшэнны гармідар. Пачытаўшы, Міхаіл Іванавіч раптам знянацку падхопліваецца і моцна ляпае кнігай аб стол, — пачынаецца.

— Ну, скаціншукі! Ну, гаспада галаўлёвы! Малайцы, выкідайце кату пад хвост маладыя агні, маладыя жаданні! Пераводзьце кроў на ваду! Вясковыя, цёмныя людзішкі — вы ж прападзеце ў вялікім свеце без навукі! Без чытання! Каму вы трэба цяперашнім часам?! Не даў Бог вашым бацькам грошай, палат каменных — дык не чухайцеся, чэрці, на печы, а чытайце! Цярплівасцю вазьміце, пакуль галовы маладыя, сілком, напаўняйце сябе навукаю!

Пачынае настаўнік без запалу,нават абыякава, быццам ведае, што тут кажы ні кажы, усё адляціць, як гарох ад сцяны. Але паступова натхняецца, дзябёлы твар яго чырвane, голас робіцца аж пагрозлівым, быццам перад ім не падлеткі — учарашнія дзеці, а крэўныя ворагі. Ён пачынае глядзець паверх галоў і цадзіць праз зубы, адсякаючы доўгім тоўстым пальцам кожнае слова:

**Маленькие, серые людишки**
**Бродят по земле моей отчизны!**

**Ищут все дешевенького счастья,**
**Гэткія трусы і ілгунішкі!**

— Дык вось, не будзе нікому дзяшовага шчасця, папомніце мяне! Шчасце трэба заслужыць, крывёю заплаціць за яго!..

Ванька, Бога нет!

І сеў сабе моўчкі за стол і чытаў, ні на што не зважаючы. У канцы ўрока падняўся, сказаў гнеўна, ківаючы пальцам класу:

**Вось так на земле проживете,**
**Как черви слепые живут.**
(Узмах рукою)
**Ни сказок про вас не расскажут,**
**Ни песен про вас не споют.**

— Усіх пакідаю пасля ўрокаў. (Урок беларускай мовы апошні.) Перапісвайце, спісвайце адзін у аднаго, што хочаце рабіце, хоць на галовах стойце, — але кожны падыдзе да стала, пакажа практыкаванне, і свабодны.

Потым, пакашляўшы, але ўсё так жа строга:

— Ты, Таня, можаш ісці. Я цябе адпускаю.

— Я не зрабіла, Міхаіл Іванавіч.

— Значыць, у цябе была важная прычына, — спакойна адказвае настаўнік. — Ідзі.

Дзяўчынка не кранаецца з месца. Праз момант ёй зноў ззаду кідаюць на парту запіску — тою ж рукою зноў намаляваныя людзі, сукупленыя ў палавым акце.

Перапісваюць практыкаванне хутка, каб паспець яшчэ да званка з урока. Падносяць адзін за адным да стала. Міхаіл, нават не правяраючы, ставіць каму пяцёрку, каму чацвёрку, і адпускае. Таня, нізка схіліўшыся над сшыткам, марудна выводзіць кожную літару.



Усе нагнуліся над партамі і хіхікаюць, а Тані ў такія хвіліны страшэнна сорамна за яго; яна думае, што і з яе гэтыя хіхікі; такім настаўнік перастае падабацца ёй і яна ўжо не адчувае пяшчоты, гледзячы на яго штаны, на пінжак, пацёрты на локцях, на прышытыя рознымі ніткамі гузікі кашулі... "Што ён кажа? Навошта, каму?" — думае яна і таксама, як і ўсе, схіляе галаву над партай.

Аднойчы пасля выхадных ніхто з класа не зрабіў хатняга задання. І Таня таксама. На выхадныя прыязджала з горада Надзя, старэйшая сяброўка, якая вучылася ў тэхнікуме, Таня пайшла з ёю ўвечары ў клуб, на танцы, потым за клубам Надзя курыла, Таня папрасіла і яе навучыць... Словам, загулялася, і не да ўрокаў было.

— Малайцы! — сказаў Міхаіл Іванавіч, прайшоўшы між радоў і глянуўшы сшыткі. — Усё правільна — гуляй, Ванька, Бога нет!

...

Урэшце яны застаюцца адны ў класе, настаўнік і вучаніца.

— Таня, давай дзённік, — кажа Міхаіл Іванавіч, устае і пачынае збірацца. — Я табе ўжо даўно ў журнал пяцёрку паставіў.

Дзяўчынка бярэ партфель, сшытак, падыходзіць да стала:

— Вось... — і замест сшытка падае настаўніку запіску, дзе людзі ў палавым акце.

Той няўцямна, блізарука ўзіраецца; потым яго вялікая далонь разам з паперкаю пачынаюць дрыжэць.

— Ну, чарты дзікія... Што выдумаць... На гэта дык розуму хапае... На, парві хутчэй, каб ніхто не бачыў! Ты, Таня, я табе вось што скажу... Прысядзь.

Дзяўчынка паслухмяна сядае за першую парту, настаўнік таксама цяжка апускаецца ў крэсла.

— Ты, Таня, менш іх слухай. Ты ім не роўня, у цябе галава светлая. Табе трэба вырывацца адсюль у вялікае жыццё, бацькі ў цябе няма, памагчы табе ніхто не паможа...

Дзяўчынка глядзіць яму проста ў вочы, і ён ад погляду гэтых цёмных, вільготных, нібы сонных вачэй тушуецца, апускае галаву, кашляе і нават чырванее.

— Куды вырывацца, Міхаіл Іванавіч?

— Як куды — у горад! Можа, нават у Мінск. Ты выдатніца, цягні на медаль...

— І што ў тым горадзе? Трахацца па абшчагах? — спакойна, сваім зусім яшчэ дзіцячым голасам пытае яна, і вочы ў яе смяюцца.

Міхаіл Іванавіч аж адкідваецца назад і закрывае сабе далоняю рот, быццам гэта ў яго вырвалася гэтае слова.

— Таццяна... — шэпча ён і азіраецца на дзверы. — Цішэй, ты ж мяне падводзіш!

— А што, не так? Надзя вунь расказвала. Ведаеце, што яны там вытвараюць? П'юць, кураць і трахаюцца. Шчасце такое, горад...

— Надзя цябе навучыць! Ты менш яе слухай, ты разумная дзяўчынка, будзеш сама сябе глядзець, і... і...

Зноў яе вочы не даюць яму сабраць слоў.

Раптам ён нібы разумее нешта, замаўкае, і твар яго робіцца такім чырвоным, як у дзядзькі, што за раз хапануў добрую шклянку першаку.

— Таня, — мармыча ён, не падымаючы галавы, — Таня, у мяне ўжо ўнучка магла б быць такая, як ты... У мяне трое дачок, а...

— А гузікі рознымі ніткамі прышытыя. І латачка вунь на локці.

Настаўнік неяк спалохана ўскідвае руку і глядзіць на латачку. Тані смешна гэта, і шкада яго, нейкая пяшчота да яго, як да бацькі, якога ў яе няма; хочацца ўзяць яго вялікую далонь у сваю і прыцісну ца да яго пляча... Але яна — дзяўчына, жанчына, і векавы інстынкт прымушае яе гаварыць не тое, пра што яна думае, і рабіць не так, як ёй хочацца.

— Вы не бойцеся, Міхаіл Іванавіч, — яна стараецца надаць голасу абыякавасці. — Больш такіх запісак не будзе. Я ведаю, хто іх прысылае.

Настаўнік маўчыць. Яна пстрыкае замкамі партфеля, апранае куртачку, якую не здавала сёння ў гардэроб, бо ў класе халаднавата, ідзе да дзвярэй.

— Да пабачэння, Міхаіл Іванавіч.

— Таня, — ціха кажа настаўнік, праводзячы яе вачыма. — Таня!..

Але дзяўчынка, мабыць, не чуе. Зачыняюцца за ёю дзверы.

Настаўнік збірае свае кнігі і, задуменны, прыгорблены, тэпае ў настаўніцкую. Там сядзіць толькі завучыха, Паліна Пракопаўна, якую і вучні, і настаўнікі за вочы завуць проста Полькай.

— Вам жонка толькі што званіла з горада, — кажа Полька, абмацваючы яго з галавы да ног насмешлівым, нячыстым позіркам. — Прасіла пазваць вас, я сказала, ён сядзіць з вучаніцай пасля ўрокаў. Тады яна наказала перадаць, каб вы не адразу дамоў ехалі, а каля вакзала зайшлі ў магазін і купілі... Вось, я запісала.

— Я помню, — суха адказвае Міхаіл Іванавіч і адводзіць яе руку з вырваным каляндарным лістком.

Ён хутчэй нацягвае сваю чорную куртку, адвярнуўшыся, каб завучыха не бачыла, што ў курткі зламаны замок-"маланка" і знізу яго трэба прымацоўваць шпількаю, урэшце спраўляецца, зашморгвае, бярэ свой пусты сакваяж і, буркнуўшы "ўсяго добрага", выходзіць на восеньскі непрыветны двор. Імжыць дождж; Міхаіл Іванавіч насоўвае на галаву капюшон, памалу ідзе да прыпынку. Па дарозе шнырыць па кішэнях курткі, знаходзіць два скамечаныя прабітыя талончыкі. Адзін, абгледзеўшы, выкідвае, другі разгладжвае, каб не было відно дзірачак — спатрэбіцца яшчэ. (Да горада ў яго праязны, а ад вакзала яшчэ тры прыпынкі ехаць гарадскім аўтобусам, з вечнымі кантралёрамі.)

"Таня... Таня..." — думае Міхаіл Іванавіч і ніяк не можа дадумаць, пакуль не разумее — гэта ж ён гукае, кліча яе!..

Холадна на прыпынку, імжа, пуста — няма больш пасажыраў. Настаўнік ставіць сакваяж на мокрую лаўку і глыбока хавае рукі ў кішэні.

Якая тут Таня, куды ўжо табе, Міхаіл Іванавіч, звацЬ Таню!..

толькі вынік працы выканаўцы, але і напрамак, па якім ён да яго рухаўся. Рабілася відавочным, напрыклад, як А. Малінін прыйшоў ад рамanса да тэатра аднаго акцёра, як В. Лявонцьеў "перарос" сам жанр песні, з'яднаўшы вакал з сучасным тэатрам і ператварыўшы свае нумары ў вакальна-пластычныя кампазіцыі, якія нагадваюць сцэны з мюзікла ці рок-оперы. Як сказаў адзін беларускі паэт, я б пісаў замест шлягераў лепей рамансы, ды няма на іх свайго Малініна...

А між тым, пошукі сапраўднага вакалу на "С. Б." прыводзілі ў начны джаз-клуб, дзе без стомы працавала пецярбургская група "Дайджэст". Фантастыка! Яны выконвалі ўласныя апрацоўкі не толькі класічных джазавых тэм, але і рускай народнай песні, і знакамітай глінкаўскай "Спадарожнай", што пралятае шоргатам ветру, і "Елачкі", што "ў лесе нарадзілася". І кожным сваім выхадам музыканты нібы даводзілі, што джаз — гэта не проста асаблівасці рытму ці гармоніі, і нават не асобны музычны напрамак, а проста іншы стыль жыцця, заснаваны на свабодзе і волі, у тым ліку творчай. І, нарэшце, на высокім мастацкім гусце (здаецца, менавіта апошняга крыху не хапала мясцовай віцебскай джаз-групе, салістка якой балансавала на мяжы "рэстарана" з "кабаком").

На жаль, вакал "Дайджэста" так і застаўся за зачыненымі дзвярыма (папулярнасць джаз-клуба расце, таму ў гэтым годзе ўваход у яго быў не проста па акрэдытацыйных картках, а па спецыяльных запрашальных білетах) — і не трапіў на сцэну амфітэатра: як кажуць, занадта прафесіяналізм вялікі, каб марыць пра "вялікую" сцэну.

Маскоўскай дзіцячай джаз-групе, якая таксама адну ноч працавала ў джаз-клубе, пашанцавала болей: падлеткі з флейтамі і скрыпачкамі ўдзельнічалі ў канцэрце "Усё гэта — клас!" Ды толькі трэба было бачыць, як недарэчы глядзелася іх знакамітая гершвінаўская "Калыханка" пасля цыркавых нумароў.

А вось з музыкантамі аркестра Фінберга абышліся наадварот: спачатку пасадзілі іх на сцэну амфітэатра, каб тыя падыгралі канкурсантам, а потым — адразу ў аўтобус і дамоў у Мінск: мауляў, няма чаго ім па джаз-клубах цягацца. А калі ўлічыць, што не было традыцыйных джазканцэртаў і на сёлетнім, III Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі, дык можна падумаць, што песня падала на развод з джазам. Жарты жартамі, ды за дзяржаву крыўдна: калі што ў нас і ёсць сапраўды высокага ўзроўню, дык гэта джаз, а не ўласна эстрада з яе трафарэтным "гоп-ля-ля".

Што ж зробіш: калі прытулкам вакалу на "С. Б." (і шырэй, музыкі) часам заставаўся адзін джаз-клуб, дык для НЕвакалу было куды больш сцэнічнай прасторы. Як паводле закона фізікі: круг на вадзе падрос і крышачку змяніў свае абрысы. Бачыце?

К О
А А
В вакала Л

Між іншым, мяне больш за ўсё турбуе сама тэхналогія няўлоўнага пераходу "а" ў "о". Угледзьцеся пільна — і вы заўважыце, што "о" — гэта ж спрошчанае "а": без усялякіх там "звілін", прабачце, — проста кругленькая і зручная літара, толькі крыху буйнейшая па прычыне ганарлівага надзімання шчок.

Так і ў музыцы, дзе ПАЗАмузычнасць адваротна прапарцыянальная колькасці "звілін" і вядзе сябе наступальна. І ўзнікае яна не за межамі нот, а між імі. Бо сапраўдная музычнасць — яна ж і ў паэзіі, і ў жывапісе ўсё адно музычнасць: як стан душы і творчасці, як пацалунак феі з павевамі вальсаў Чайкоўскага.

І пераканацца ў тым можна было на "С. Б." неаднойчы. Той жа фільм "Стомленыя сонцам", зняты Мікітам Міхалковым "у рытме танга", засталася глядзець палова беларускай эстраднай тусоўкі — замест гала-канцэрта адкрыцця, які ішоў адначасова. А на выстаўцы кветак, калі здавалася, яна ўжо займела сваю нячутную мелодыю, раптам як грымнуў "інструментал" — дык кветкі ажно пялёсткі скруцілі.

Так што да перарастання музычнага фэсту ў фестываль мастацтваў, як сёлета пачаў называцца "С. Б.", я б ставілася пафіласофску. Гэта — таксама сімптом. І творчага крызісу жанру эстраднай песні, і крызісу фінансавага, калі пад адных толькі спевакоў усё цяжэй знайсці спонсараў, а пад цэлы кірмаш мастацтваў — іншая справа, бо спонсарам тут мрояцца зусім іншыя маштабы.

"Славянскі базар" перажывае сёння экстэнсіўны перыяд развіцця, захопліваючы ўсё новыя і новыя плошчы "цалінных земляў". Ды толькі эйфарыя хутка пройдзе — і давядзецца думаць аб "прафарыентацыі": ці то звяртацца да інтэнсіфікацыі адной з мастацкіх сфер, ці то працягваць "карнаваліць".

Пакуль "С. Б." лепей удаецца апошняе: працэс карнавалізацыі, што называецца, "пайшоў", і ў Віцебск едуць менавіта "пабазарыць", а не шукаць славянскія карані ў мастацтве. Адзін з асноўных аргументаў на карысць гэтага — поўная адсутнасць на фэсце эстрадных менеджэраў, прадзюсераў, прадстаўнікоў студый запісу. Затое пэўная колькасць тых, хто едзе ў разлику на банкеты і відовішча.

Наконт апошняга ў Віцебску—95 сапраўды вочы разбягаліся: за 5 дзён — 92 мерапрыемствы! (Уласна кажучы, маглі і да сотні дагнаць, ды, відаць, пакінулі гэту ўрачыстасць да наступнага "С. Б." з яго пяцігадовым юбілеем). Паспець на ўсе з "відовішчаў" было немагчыма фізічна, бо многія з іх ішлі паралельна адно аднаму.

Так, "паралельнай танальнасцю" засталася кінапраграма. Тым не меней, сп. М. Бурляеў, які ўзначальвае кінафестываль славянскіх і праваслаўных народаў "Золотой Витязь" і, відаць, збіраецца зрабіць Віцебск яго "другой радзімай", знайшоў шмат часу (без паралельных мерапрыемстваў!), каб шчодра накарміць журналістаў рэкламай свайго фэсту і ўласнай асобы — прычым не толькі на словах, але і ў выглядзе дакументальнай стужкі. Акрамя гэтага, на прэзентацыі кінапраграмы мяне вельмі ўразіла выступленне архімандрыта айца Інакенція, які зрабіў амаль навуковую класіфікацыю духоўнасці: маўляў, ёсць духоўнасць стваральная, а ёсць тая, што нясе "растление" (цікава, што ж тады наогул духоўнасцю лічыць?). Заканчвалася яго прамова двума заклікамі: "не обнажать телеса" і "соединиться со своим телом — святой Русью" (незразумела было толькі, чаму сам Бурляеў "адкалоўся" ад Масквы, дзе адначасова з "С. Б." праходзіў Міжнародны кінафестываль).

Але ж я такі ўцяміла: кіношнікі прыехалі ратаваць эстраду ад "тлетворного влияния Запада". І выратавалі! Ящчэ як! Бо пра высокую духоўнасць гаварыла (і спявала) — Маша Распуціна — і гэта было лепшай з базарных пародый—95.

Калі ж сур'ёзна, дык я зусім не супраць кіно! Больш за гэта, вельмі б хацела паглядзець дакументальную стужку, прысвечаную "С. Б.—94", за якую ўкраінцы атрымалі журналіцкі прыз "Золатое пяро". На жаль, яе не паказалі. А мае мары паляцелі далей: ну чаму б не арганізаваць на "С. Б." конкурс менавіта музычных фільмаў? Музычных тэле-, радыёпраграм?

Між іншым, знакаміты "Музабоз" вёў на "С. Б." тэлездымкі — на спецыяльна адведзеным для гэтага начным "Дыскабазары". Сярод удзельнікаў было шмат маладых беларускіх артыстаў. Цікава, што са знятага застанецца ў кадры?

Бо пакуль з усёй беларускай дэлегацыі больш паспяхова пазіравалі перад камерамі трое нашых прыгажунь, кожная з якіх атрымала званне хоць якой-небудзь "місачкі". Гэта Алена Кудрашова (Міс Славянка—95), Вольга Роля (Міс Фота) і Алена Бушуева (Міс Зачараванне). Ды і сам конкурс мне вельмі спадабаўся. Ужо хаця б тым, што прэсу на яго прапускалі па нейкіх міфічных спісах, якія ніяк не маглі знайсці. І я трапіла на яго толькі таму, што спрытна схавалася за спіну звышпапулярнай тэлезоркі Элеаноры Язерскай, якую, між іншым, таксама пусцілі толькі па хадайніцтве самога Сашы Варламава.

Пачатак конкурсу на паўгадзіны пазней быў вельмі дарэчы: з'явілася магчымасць разгледзець дызайн сцэны і параўнаць яго з убранnем іншых фестывальных пляцовак. Ну падумаеш, нейкія фантазіі з празрыста-лёгкіх шарыкаў! Каго гэтым здзівіш! Іншая справа — вялізная саламяная валошка на чорным фоне ды дзве вялізныя анучы а ля неапрымітыў-фольк-мадэрн у Цэнтры нацыянальных культур (тэатр імя Я. Коласа). Ці сапраўдны фантан і кусцікі-бярозкі з лісточкамі а ля "рэалізм у рускай класіцы" на сцэне амфітэатра (у апошнім выпадку ўсё выратоўвалі светлавыя эфекты — ад фірмы "Феерыя" з Украіны).

Нарэшце, распачаўся конкурс, і я вельмі парадавалася за вядучага Міхаіла Марфіна, бо ён знайшоў універсальны спосаб, як хутчэй спасцігнуць у дзяўчатах "богатый внутренний мир и разносторонние увлечения" (а менавіта гэта было адною з умоў конкурсу). Вось тая фраза, якую ён не стамляўся паўтараць: "Девушка, а девушка под N...! Можно познакомиться с Вами?" І пасля гэтага нашы прыгажуні яшчэ і знаёміліся?!! А што ім, скажыце, заставалася рабіць? Астатнія іх выхады былі не толькі маўклівымі, але й наогул імгненнымі. Да таго ж хтосьці выходзіў паасобку, хтосьці — парамі, а хтосьці — па чацвёра адразу. Як толькі паспявала журы іх ацаніць? Асабліва альтэрнатыўнае, што складалася з журналістаў і артыстаў? Можа, таму і ацэнкі былі такія несупадальныя?

...Не дачакаўшыся фіналу конкурсу, я паспяшалася на канцэрт з паэтычнай назвай "Залатыя арэлі сноў", дзе кампазітар Алег Елісеенкаў прадстаўляў гледачам моладзь беларускай эстрады. І ўсё б цудоўна, ды толькі гэта праграма была, як кажуць, мясцовага значэння — амаль без журналістаў, стомленых перабежкамі з залы ў залу. Дый наогул на "С. Б." заўважаецца такая тэндэнцыя: усё, што адбываецца не ў амфітэатры, а недзе ВАКОЛ, і значэнне набывае такое ж — ВАКОЛАВА.

Вы нічога не заўважылі ў апошнім слове? Калі пасля першай літары спыніцца кропкай, дык узнікне прозвішча вядомай беларускай паэтэсы. І ў гэтай гульні слоў (ідэя гульні слоў запазычана мной з артыкула Ж. Васанскай у штотыднёвіку "Культура" ад 2-8 жніўня 1995 г.) мне прымроілася амаль містычная заканамернасць.

Першымі словамі Валянціны Валянцінаўны на "С. Б." былі: "Можна, я не буду здымаць свой капялюшык?" Апошняе, што мне добра ўрэзалася ў памяць, — гэта тое, як яна, падобна ўсім нам, бараніла месца на драўлянай лаўцы амфітэатра, адстойваючы на яго свае правы. А яе выступлення ў "Літаратурнай гасцёўні" "С. Б." я не чула, бо позна даведалася: яно не значылася ў праграмках.

Можа, так і з Беларуссю? Мы хочам лічыцца Еўропай і думаем, што для гэтага трэба толькі надзець капялюшык у выглядзе фэста-карнавала. А потым (на тым жа "С. Б.") змагаемся за месца пад сонцам. І нешта наша нацыянальнае, вельмі істотнае, так застаецца непачутым. Хіба ж можна пачуць чыюсьці душу ў шумным водгуллі "базара"?

А "Славянскі базар", здаецца, імкнецца ўсё болей апраўдаць сваю назву: у будучым годзе ўжо і класічную музыку прапануюць далучыць. Можа, сапраўды адчулі, як ён губляе апошнія кроплі музычнасці? І робіцца цікавым для каго заўгодна: палітыкаў, псіхолагаў, сацыёлагаў, культуролагаў — толькі не для музыкантаў?

Упэўненая, на пытанне пра самае яркае ўражанне ад "С. Б." палова гледачоў адкажа — Мэйсан з "Санты-Барбары". І я з імі згаджуся, бо папулярны акцёр Лайн Дэвіс быў куды інтэлігентней за нашых эстрадных куміраў — дый спяваў няблага. Вось толькі дэманстравалі мы яго — нібы таго "мядзведзя на ланцугу", як на колішніх кірмашах.

Можа, уся справа ў сімвале "С. Б."? Мы ўзрасцілі валошку — а яна толькі прыгожанькае пустазелле.

— Ну, чаму? — адкажа мой апанент. — Валошка — гэта святa.

І я згаджуся з ім — толькі папярэджу, каб не блытаў блакітнае кведце з калоссем пшаніцы. І памятаў аб прапорцыях між імі. Бо калі збавіцца і без таго адзінай звіліны, з літары "а" зробіцца не проста "о", а цэлае КОЛА. Замкнёнае. Нібы круг на вадзе ў нашай рэчцы часу. І не выратуе ніякая "Cola", што ракой ліецца ў прэсцэнтры і на банкетах "С. Б.". Круг на вадзе не можна расці да бясконцасці: ён раптам знікае. Нібы яго не было. Нібы ніхто і не кідаў каменьчык.

...Між іншым, а чаму каменьчык? Раней, каб вярнуцца, усе мы кідалі ў ваду манеткі. Зараз беларусам кідаць няма чаго: наш "зайчык", як кажуць, "непатапляльны". Але хтосьці з расіян згубіў (ці пакінуў знарок) у прэс-цэнтры маленькі жаўтаваты рубель — і я кінула ў рэчку яго. Нібы маленькае сонейка. Колеру апельсіна.

Стоп! Няўжо я зноў хачу на "С. Б."?

А-а-а... Не пачую шэдэўраў, дык хоць наемся... Ці з гора нап'юся! Што ні кажыце, а віно "Туцці-фруцці", якім падсалоджваюць прэс-канферэнцыі, — найлепшае ў свеце (не блытаць з аднайменным расійскім дзіцячым ансамблем)!

**Надзея БУНЦЭВІЧ**
*Фота С. ГРЫЦА*



*Уладальнік Гран-пры Філіп ЖМАХЕР з Югаславіі*



*Наш славуты АЛЕН*



*Алена ЛІТОЎКА*



*Госць фестывалю — знакаміты Мэйсан з "Санта-Барбары" — акцёр Лайн ДЭВІС*

ЛіМ
ЧАСАПІС



# КАЛЯНДАР ВЕРАСНЯ

**1 верасня — 95 гадоў з дня нараджэння Сымона БАРАНАВЫХ (1900—1942). Выступаць у друку пачаў як селькор з карэспандэнцыямі. Першае апавяданне апублікаваў у 1927 годзе ў газеце "Чырвоная змена", а ў 1930 годзе выйшла першая кніга апавяданняў "Злосць". Гэтым жа годам пазначаны асобныя выданні аповесцяў "Чужая зямля" і "Межы". У 1935 годзе выйшла аповесць для дзяцей "Пастка", праз год — аповесць "Новая дарога". У тым жа 1936 годзе С.Баранавых быў арыштаваны, асуджаны на дзесяць год. Памёр 10 лістапада 1942 года. Найбольш поўна творчая спадчына С.Баранавых прадстаўлена ў аднатомніку "Новая дарога" (1989).**

**6 верасня — 90 гадоў з дня нараджэння Віктара КАЗЛОЎСКАГА (1905—1975). Першыя вершы апублікаваў у 1925 годзе ў газеце "Савецкая Беларусь". У 1932 годзе выйшлі зборнікі "Слова аб юнай краіне", "Музыка працы" і паэма "Рахіль". Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М.Асеева, М.Ісакоўскага, І.Уткіна. З-за хваробы пакінуў сталіцу, жыў на Уздзеншчыне.**

**12 верасня — 50 гадоў з дня нараджэння Рыгора СЕМАШКЕВІЧА (1945—1982). Аўтар зборнікаў вершаў "Леснічоўка" (1968), "Субота" (1973), аповесці "Бацька ў калаўроце" (1976). У 1987 выйшла кніга выбранага "Лічыла дні зязюля". На творчым рахунку Р.Семашкевіча літаратуразнаўчыя працы "Бранiслаў Эпімах-Шыпіла" (1968), "Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе" (1971), кніга эсэ, артыкулаў "Выпрабаванне любоўю" (1982).**

**17 верасня — 135 гадоў з дня нараджэння Кандрата ЛЕЙКІ (1860—1921). Аўтар першай у гісторыі беларускай літаратуры п'есы для лялечнага тэатра "Снатворны мак" (у 1912 годзе выдадзена ў Вільні).**

**19 верасня — 90 гадоў з дня нараджэння Янкі ТУМІЛОВІЧА (1905—1938). Скончыў БДУ (1927), працаваў выкладчыкам і ў рэдакцыях рэспубліканскіх часопісаў. Друкаваўся з 1925 года. Быў членам літаратурных арганізацый "Маладняк" і "Пробліск". Разам з А.Звонакам і Я.Бобрыкам выдаў зборнік паэзіі "Пунсовае ранне". У 1929 годзе напісаў паэму "Ульянаў-Ленін".**

**26 верасня — 85 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра АГІЕВІЧА (1910—1952). Дэбютаваў вершамі ў 1928 годзе. Як крытык пачаў выступаць у 1941 годзе. Склаў разам з І.Кудраўцавым некалькі падручнікаў. Лепшыя крытычныя артыкулы сабраны ў кнізе "Літаратура і жыццё" (1954). На беларускую мову пераклаў аповесць М.Прыляжаевай "З табой таварышы" (1950).**

**29 верасня — 115 гадоў з дня нараджэння Сяргея САХАРАВА (1880—1954), беларускага этнографа, фалькларыста, педагога.**

# ТКАЦТВА, ВЫШЫЎКА, РАЗЬБА...



**У Доме культуры раённага цэнтра Іванава Брэсцкай вобласці адбылася выстава народнай творчасці з фондаў музеяў Брэста, Драгічына, Лунінца і Моталя. Наведвальнікі яе пазнаёміліся з цудоўнымі ўзорамі ткацтва і вышыўкі, з работамі майстроў разьбы па дрэве і саломапляцення, ганчарных промыслаў. Асаблівую цікавасць выклікае калекцыя народных музычных інструментаў. Выстава дэманструе багацце і разнастайнасць талентаў Палескага краю.**

*На здымку: у выставачнай зале.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ*

Гэта было

***Незалежная Беларусь паволі, але няўхільна выходзіць на міжнародную арэну, і сусветная супольнасць прызвычайваецца да незалежнага існавання нашай дзяржавы. А яшчэ зусім нядаўна заходнія палітолагі розных напрамкаў пісалі аб беларусах як аб народзе, найменш здольным да незалежнага існавання, як аб найбольш зрусіфікаваным сярод усіх народаў былога СССР. На жаль, шмат у гэтых сцвярджэннях было праўды. Менавіта на Беларусі выкарыстоўвалася найбольш жорсткая і бескампрамісная русіфікацыйная палітыка, менавіта на беларусах савецкі таталітарызм вырашыў паставіць страшлівы эксперымент суцэльнай дэнацыяналізацыі. Беларусы павінны былі быць першымі, хто ўвойдзе ў склад так званага савецкага народа, народа без нацыянальных карэнняў, рускамоўнага, галоўнай духоўнай рысай якога павінна была быць камуністычная адданасць справе КПСС.***

***Псеўдасуверэнная Беларуская ССР патрэбна была савецкаму кіраўніцтву толькі як пераходная форма, слова "беларуская" тут практычна нічога не азначала. Нібыта суверэнная Беларусь у складзе Саюза ССР мела не больш правоў, чым, напрыклад, Смаленская вобласць.***

***Калі аб камуністычных спробах выкарыстоўваць беларускую карту для сваіх мэт, ствараючы псеўдасуверэнныя дзяржаўныя фармаванні на яе тэрыторыі, вядома адносна добра, дык польскія спробы ў гэтай галіне — гэта амаль белая пляма ў беларускай гістарыяграфіі. Вось чаму мы і абралі ў якасці тэмы гэтага артыкула гісторыю Сярэдняй Літвы.***

Мікола ІВАНОЎ,
доктар гістарычных навук

# "СЯРЭДНЯЯ ЛІТВА"

Сярэдняя Літва была ўтвораная згодна з ваенным дэкрэтам польскага генерала Люцыяна Жэлігоўскага 12 кастрычніка 1920 года. Сталіцай была абвешчана Вільня. У склад гэтага новага дзяржаўнага ўтварэння ўваходзілі Ашмянскі, Троцкі, Віленскі і Свянцянскі паветы былой Віленскай губерні з насельніцтвам недзе ў 500 тысяч чалавек. Існавала яна ўсяго толькі трохі больш за 1 год: у лютым 1922-га сойм Сярэдняй Літвы прыняў пастанову далучыцца да Польшчы.

Нягледзячы на свае невялічкія памеры і кароткую гісторыю Сярэдняя Літва пакінула балючы след у нацыянальнай свядомасці польскага і літоўскага народаў. Да сённяшняга дня менавіта трактоўка гісторыі Сярэдняй Літвы з'яўляецца галоўнай перашкодай на шляху падпісання польска-літоўскага дагавора аб сяброўстве і супрацоўніцтве.

Не ўсе, аднак, ведаюць, што ў бурлівай гісторыі Сярэдняй Літвы беларусы адыгрывалі далёка не ролю статыстаў. Беларускі бок актыўна намагаўся, каб свет даведаўся аб тым, што ў канфлікце літоўска-польскім ёсць яшчэ адзін бок, што зацятая спрэчка паміж дзвюма дзяржавамі адбываецца на тэрыторыі, дзе беларусы складаюць большасць насельніцтва.

Пасля перавароту 1917 г. перад шматлікімі народамі былой расійскай імперыі паўстала пытанне аб адраджэнні альбо ўтварэнні нацыянальнай незалежнай дзяржаўнасці і вызначэнні меж новапаўсталых дзяржаў. Аднак стагоддзі сумеснага пражывання ў варунках вялікай імперыі настолькі перамяшалі розныя нацыянальнасці, што вызначэнне гэтых меж было надзвычай складанай справай. Сітуацыя вельмі нагадвала тую, што склалася зараз пасля распаду Савецкага Саюза. Малыя і вялікія народы распачалі змаганне за нібыта "справядлівы" падзел імперскай спадчыны, пачалі жорсткую і крывавую барацьбу паміж сабой, не падазраючы, што віну за іхнія няшчасці нясуць не суседнія народы, таксама прыгнечаныя на працягу стагоддзяў, а імперская нацыя.

Беларусы, якія складалі абсалютную большасць насельніцтва так званага "Северо-Западного края", былі амаль выключна вясковымі жыхарамі. Адначасна Беларусь была самай густанаселенай яўрэямі часткай нашай планеты. Працэнт яўрэяў тут паводле ўсерасійскага перапісу 1897 г. дасягаў 14—15%. Ва ўсіх гарадах Беларусі, амаль без выключэння, яўрэі складалі адносную большасць.

Палякі ўяўлялі сабой на Беларусі сацыяльную праслойку землеўладальнікаў. Акрамя вялікіх магнатаў, Радзівілаў ці Сапегаў, латыфундыі якіх складаліся з тысяч і дзесяткаў тысяч гектараў, было тут шмат дробнай шляхты, спаланізаванай на працягу вякоў і глыбока прасякнутай ідэяй адраджэння Польшчы ў межах 1772 года.

Расійцы былі тут галоўным чынам прадстаўнікі шматлікага імперскага чыноўніцтва і вайскоўцаў, але хапала і мясцовых, скажам, старавераў, якія перасяліліся на Беларусь яшчэ ў XVII—XVIII стагоддзях, ратуючыся ад рэлігійнага пераследу з боку царызму і афіцыйнай праваслаўнай царквы.

Такі ж склад насельніцтва быў характэрны і для паўночна-ўсходняй часткі беларускай этнічнай тэрыторыі, так званай Віленшчыны. Толькі тут да беларусаў, яўрэяў і палякаў дамешвалася нязначная колькасць літоўскага насельніцтва: паводле перапісу 1897 года, літоўцы складалі менш за 5% насельніцтва.

Віленшчына для чатырох народаў мела надзвычай важнае духоўнае значэнне. Для беларусаў — гэта калыска іх першага нацыянальнага адраджэння, галоўны інтэлектуальны, выдавецкі і духоўны цэнтр. Для палякаў Вільня адыгрывала ролю своеасаблівай сталіцы крэсаў, сімвалізавала для іх былую веліч Рэчы Паспалітай, яе былое панаванне на Усходзе, калі яна на роўных змагалася з Расіяй. Для літоўцаў Вільня — колішняя сталіца Вялікага княства Літоўскага, апагея развіцця літоўскай нацыянальнай ідэі, калі літоўска-беларуская дзяржава была амаль што самай вялікай паводле тэрыторыі дзяржавай Еўропы. Беларускія прэтэнзіі на Вялікае княства Літоўскае літоўскі нацыянальны рух пачатку стагоддзя адкідваў без усялякіх ваганняў. Для яўрэяў Вільня — гэта Літоўскі Іерусалім, горад, які ў XVII—XVIII стагоддзяхператварыўся ў самы вядомы на Усходзе Еўропы цэнтр яўрэйскай нацыянальнай адукацыі, філасофіі, рэлігійнай і нацыянальна-адраджэнцкай думкі.

Усе гэтыя надзвычай складаныя ўзаемадачыненні паміж народамі Віленшчыны наклаліся на драматычныя падзеі расійскай рэвалюцыі, і крах імперскай сістэмы ў гэтым кутку пасляваеннай Еўропы спрыяў абвастрэнню старых і паўстанню новых антаганізмаў.

Бальшавіцкая і польская канцэпцыі вырашэння беларускага нацыянальнага пытання носяць імёны кіраўнікоў Савецкай Расіі і Польшчы ў гэты перыяд. Першая мае назоў "ленінская нацыянальная палітыка", другая — "федэралізм Юзэфа Пілсудскага". Абедзве гэтыя канцэпцыі амаль не ўлічвалі нацыянальныя інтарэсы беларускага народа і былі накіраваны на ўзмацненне пазіцый чужынцаў на Беларусі. Але на гэтым падабенства паміж гэтымі дзвюма ідэалогіямі канчаецца.

Паводле марксісцкай дактрыны, самавызначэнне народаў і стварэнне незалежных дзяржаў супярэчыць справе сацыялістычнай рэвалюцыі і сацыяльнага вызвалення пралетарыяту. Нацыянальныя бар'еры падзяляюць працоўных, пісаў Ленін, а нам патрэбна пралетарская згуртаванасць, каб перамагчы буржуазію. Таму неабвержным дагматам марксізму заўсёды заставаўся ідэал вялікай шматнацыянальнай дзяржавы, гэткай камуністычнай імперыі. Ленін нават напісаў на гэтую тэму спецыяльную працу "Аб лозунгу Злучаных Штатаў Еўропы", у якой выказаўся за стварэнне вялікай сацыялістычнай дзяржавы ў межах усёй Еўропы.

Аднак ход рэвалюцыйнай барацьбы супраць самаўладдзя і рэвалюцыйныя падзеі 1917 года даволі хутка пераканалі Леніна, што жаданне народаў да незалежнасці і самавызначэння бадай што самае моцнае пачуццё, якое выклікала ў народных мас рэвалюцыя 1917 года. І тады, не адмаўляючыся ад першапачатковых дагматаў, Ленін высунуў тэорыю аб магчымасці нацыянальнага самавызначэння аж да стварэння незалежнай нацыянальнай дзяржавы, але на сацыялістычных пачатках. Карацей кажучы: калі хочаце незалежнасці, звяртаўся правадыр сацыялістычнай расійскай рэвалюцыі да народаў былой расійскай імперыі, дык мусіце выбіраць камуністычны сацыяльны лад для сваёй дзяржавы.

Пры ўсёй вышэйпаданай спрошчанасці ленінскіх поглядаў на нацыянальнае пытанне менавіта гэтая канцэпцыя выказала найбольшую дзейснасць у варунках пасля-рэвалюцыйнай разрухі і грамадзянскай вайны. Менавіта згодна з ёй і з'явіліся шматлікія псеўданезалежныя савецкія рэспублікі, аб'яднаныя пазней у Савецкі Саюз.

У дачыненні да беларусаў бальшавіцкая канцэпцыя вырашэння нацыянальнага пытання праявілася ў абвяшчэнні спачатку Беларускай, а пазней Літоўска-Беларускай сацыялістычных рэспублік. І першая, і другая былі заснаваны не згодна з мясцовай ініцыятывай, а паводле планаў Крамля. Сутнасць іх абвяшчэння палягала ў спробе даць беларускаму і літоўскаму народам нейкі сурагат незалежнасці, падмяніць сапраўднае самавызначэнне новай, крыху падмаляванай формай залежнасці ад Масквы.

Польская канцэпцыя вырашэння беларускага пытання была менш складанай, але не менш дэмагагічнай. Калі бальшавіцкі падыход заснаваны быў галоўным чынам на ідэалогіі так званага інтэрнацыяналізму, які тэарэтычна раўняў у правах усе нацыі, але ў сапраўднасці ставіў у прывілеяванае становішча адну "нацыю" — "нацыю бальшавікоў", дык польскі варыянт трактавання беларусаў быў заснаваны на польскай нацыянальнай ідэі, ідэі польскага месіянства ў славянскім свеце.

Польская канцэпцыя вырашэння беларускага нацыянальнага пытання несла ў сабе выразную пячатку асобы Юзэфа Пілсудскага, ягонага паходжання і выхавання. Будучы кіраўнік польскай дзяржавы нарадзіўся на беларускай этнічнай тэрыторыі — у мястэчку Зулоў на Віленшчыне. Шляхецкі беларускі род Пілсудскіх спаланізаваўся задоўга да ягонага нараджэння. Аднак усведамленне свайго беларускага паходжання першы польскі маршал, відаць, захоўваў на працягу ўсяго свайго жыцця. Аб гэтым сведчыць і добрае веданне беларускай мовы, на якой ён звярнуўся да сходу беларускага грамадства ў Мінску, калі ягоныя войскі адбілі ў 1919 г. у бальшавікоў будучую беларускую сталіцу; і запіс у

пратаколе допыту пасля арышту ў 1897 годзе аб тым, што Іван Восіпавіч Пілсудскі належыць да беларускай нацыянальнасці; і ягоныя спробы вырашаць беларускае пытанне пасля травеньскага (1926 года) дзяржаўнага перавароту ў якасці свайго, мясцовага для беларусаў чалавека.

Федэралізм Пілсудскага заключаўся ў тым, што Польшча павінна стаць своеасаблівым апекуном, кіраўніком народаў, якія некалі належалі да Рэчы Паспалітай. Для літоўцаў, беларусаў, украінцаў гэтая канцэпцыя прадугледжвала аўтаномію, а не раўнапраўнае існаванне з палякамі ў рамках адзінай супольнай дзяржавы. Дзеля гэтага і тактыка Пілсудскага падчас вайны з Савецкай Расіяй палягала не ў вызваленні народаў з-пад савецкай акупацыі, а ў стварэнні так званых здзейсненых фактаў. Іншымі словамі, гэта была замена адной акупацыі на іншую, і мясцовае насельніцтва павінна было разважаць з палякамі не як з вызваліцелямі, а як з новымі гаспадарамі. Пілсудскі такім чынам намагаўся стварыць не сапраўдную федэрацыю накшталт той, якая існавала ў ранейшай Рэчы Паспалітай, а польскую дзяржаву з абмежаванай аўтаноміяй для іншых народаў.

Пілсудскі нідзе і ніколі не выкладаў свой канкрэтны план федэрацыйнага уладкавання польскай дзяржавы. Меліся толькі паасобныя элементы гэтага плана. Сённяшнія даследчыкі знаходзяць гэтыя элементы ў ягонай прамове перад беларускімі дзеячамі летам 1919 года, пасля ўступлення ягоных войск у Мінск, а таксама ў паразуменні з Пятлюрам, дзе ўкраінцам абяцалася ўсеагульная падтрымка іх нацыянальных імкненняў. Сам Пілсудскі прызнаў гэты факт падчас даклада 24 верасня 1922 года ў Віленскім універсітэце. Мае федэратыўныя планы, сцвярджаў ён, былі вельмі неканкрэтнымі і залежалі ад ходу баявых дзеянняў на ўсходнім фронце і ад моцы і магчымасцей таго ці іншага нацыянальнага руху. Калі б пасля перамогі польскага войска той ці іншы нацыянальны рух не выказваў бы дастаткова моцнага жадання да аўтаноміі, ці федэрацыі, дык гэтая тэрыторыя магла заставацца пад поўным кантролем палякаў. Датычыла гэта перадусім беларусаў, пра якіх Пілсудскі гаварыў з пагардаю. У сваім віленскім выступленні 1922 года ён сцвердзіў, што проста не знайшоў на Беларусі дастаткова ўплывовых палітыкаў, з якімі можна было пачынаць размову аб федэрацыі. Пакінем на яго сумленні гэтае сцвярджэнне. Прыгадаем толькі, што ў той час існаваў урад БНР, існаваў уплывовы і шанаваны ў беларускім народзе палітычны лагер беларускіх адраджэнцаў. Але Пілсудскі шукаў іншых беларусаў, паланафілаў, згодных на поўнае падпарадкаванне бацькаўшчыны польскім уплывам. Ён шукаў не партнёраў для сапраўднай федэрацыі, а паслухмяных статыстаў з беларускага асяроддзя, здольных фірмаваць фікцыю федэрацыі. Вось чаму ён і не знайшоў гэткіх людзей.

Палітыка Пілсудскага, накіраваная на адбудову Польшчы ў межах 1772 года, не сустракала падтрымкі заходніх дзяржаў-пераможцаў у першай сусветнай вайне, хаця здавалася б, што Польшча на Усходзе адстойвае іх інтарэсы, змагаючыся з бальшавізмам. Англія, Францыя і ЗША былі занепакоены нараджэннем новага польскага імперыялізму. Палітыка гэтая не мела поўнай падтрымкі і з боку польскага парламента і польскага народа. Перад вачыма польскіх палітыкаў з лагера Рамана Дмоўскага стаяў сумны прыклад Аўстра-Венгрыі, імперскай шматнацыянальнай дзяржавы, якая зусім нядаўна развалілася пад ціскам сваіх нацыянальных праблем. Тое самае можа чакаць і Польшчу, справядліва прадракаў Дмоўскі.

Аднак Юзэф Пілсудскі адкінуў гэтыя папярэджванні. Ён паслядоўна імкнуўся да ўключэння ў склад польскай дзяржавы як мага большай тэрыторыі на Усходзе. Палітыка гэтая і прывяла да стварэння Сярэдняй Літвы.

Савецка-польская вайна працягвалася ад лютага 1919 г. да кастрычніка 1920 г. Падчас яе 28 лютага 1920 г. савецкі ўрад накіраваў Польшчы прапанову мірнага ўрэгулявання на падставе граніцы паміж дзвюма дзяржавамі, якая б ішла ўздоўж тагачаснай лініі фронту. Такім чынам, Ленін, у сувязі з цяжкай сітуацыяй на іншых франтах грамадзянскай вайны, адмаўляўся не толькі ад Заходняй Беларусі, але і ад Цэнтральнай, з пазнейшай беларускай сталіцай Мінскам. Пілсудскі, аднак, гэтую прапанову не прыняў. Ён па-ранейшаму арыентаваўся на аднаўленне межаў Польшчы 1772 года. Да таго ж, ён рыхтаваўся да саюза з украінскім лідэрам Пятлюрам дзеля супольнага паходу супраць бальшавікоў.

Але Пілсудскі не разлічыў сваіх сіл. Новае кіеўскае наступленне польскіх войск выклікала ў Расіі моцны прыліў патрыятызму. У Чырвоную Армію запісалася 25 тысяч афіцэраў былой царскай арміі. Акрамя таго, цэлыя часткі казакаў, якія зусім нядаўна змагаліся супраць чырвоных у складзе арміі генерала Дзянікіна, пераходзілі на бок чырвоных, каб змагацца з польскай інтэрвенцыяй.

Да таго ж, вясной 20 года галоўныя сілы белых армій былі разгромлены. Калчак расстраляны ў Іркуцку, пабіты Дзянікін накіраваўся ў эміграцыю. Толькі рэшткі дзянікінскага войска схаваліся ў Крыме пад камандаваннем генерала Врангеля.

Такі чынам, Савецкая Расія змагла сканцэнтраваць супраць палякаў летам 1920 года значныя сілы. У маі распачалося адначаснае наступленне Чырвонай Арміі на Беларусі і Украіне. Спачатку палякам удавалася стрымліваць націск чырвоных, але ў хуткім часе іх абарона не вытрымала. Распачалося доўгае адступленне польскай арміі аж да самай Варшавы.

Менавіта ў гэты перыяд палякі пачалі сутаргава шукаць новых хаўруснікаў для сваёй справы. Распачаліся перамовы з літоўскім урадам у справе вырашэння віленскага канфлікту, новыя ўступкі тэрытарыяльнага плана былі зробленыя украінцам, згадзіліся палякі і на правядзенне плебісцыту ў Сілезіі.і на Паморʼі. Успомнілі польскія кіраўнічыя колы і пра беларусаў. У Гародні ў чэрвені 1920 года распачала сваю працу Беларуская вайсковая камісія, мэтай якой было стварэнне незалежнага беларускага войска. Адным з кіраўнікоў яе стаў Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі) — вядомы беларускі паэт і прызнаны лідэр беларускага нацыянальнага адраджэння. Аднак наступленне Чырвонай Арміі было такім хуткім, што першыя аддзелы добраахвотнікаў беларускага войска так і не паспелі прыняць удзел у барацьбе з бальшавікамі. Яны былі эвакуіраваны ў Кракаў, дзе працягвалася баявая падрыхтоўка. Частка з іх пазней была кінута на палескі фронт, дзе беларускія аддзелы далучыліся да слуцкіх паўстанцаў пад канец 1920 года. Але Алесь Гарун гэтага не дачакаўся. Ён памёр у Кракаве 7 ліпеня 1920 года.

Нягледзячы на тое, што вайна паміж Савецкай Расіяй і Польшчай адбывалася на фронце ў паўтара тысячы кіламетраў, была гэта ў нейкім сэнсе дзіўная вайна. Камандарм М. Тухачэўскі, які распачаў рашучае наступленне супраць палякаў летам 1920 года, меў пад сваёй камандаю ўсяго 110 тысяч жаўнераў. Польскія войскі, якія бараніліся на Беларусі, мелі ў сваім складзе каля 86 тысяч штыкоў і 9 тысяч шабляў. Вядомая амаль усім Конная армія Будзённага налічвала ў сваім складзе ўсяго 16 тысячаў жаўнераў-кавалерыстаў і была меншая за дарэвалюцыйную дывізію царскага войска. У параўнанні з першай сусветнай вайной, калі на франтах змагаліся і гінулі мільённыя масы жаўнераў, гэтая вайна напамінала хутчэй напалеонаўскія войны, калі не было трывалага фронту, а баявыя дзеянні адбываліся галоўным чынам падчас паасобных вялікіх бітваў і малых сутычак.

Такім чынам, вялікі бальшавіцкі паход у Еўропу, каб раздзьмухаць пажар сусветнай камуністычнай рэвалюцыі, на самай справе быў вайсковай акцыяй, здольнай у выпадку поспеху паставіць на калені толькі Польшчу, краіну, якая сама толькі-толькі адрадзілася пасля 125 гадоў няволі і перажывала шматлікія цяжкасці станаўленчага перыяду.

У сярэдзіне жніўня 1920-га першыя аддзелы Чырвонай Арміі знаходзіліся ўсяго за 10—15 км ад польскай сталіцы. У Беластоку ў гэты час польскія камуністычныя лідэры на чале з Дзяржынскім і Мархлеўскім ужо стварылі польскі камуністычны ўрад, выдалі адпаведныя адозвы-заклікі да польскага народа і былі гатовы пераняць уладу ў свае рукі. 12 жніўня галоўнакамандуючы Чырвонай Арміяй Л. Троцкі выдаў загад аб апошнім "рашаючым штурме першай цытадэлі сусветнага імперыялізму" Варшавы. У бой былі кінутыя лепшыя часткі Чырвонай Арміі. Здавалася б, лёс Польшчы вырашаны, пасля Чырвонай Украіны, Чырвонай Беларусі, Туркестана і іншых частак былой расійскай імперыі, якія занялі бальшавіцкія войскі, на карце Еўропы з'явіцца і Чырвоная Польшча. Але сталася інакш. Палякі называюць падзеі тых дзён "цудам над Віслай".

Ці сапраўды гэта быў цуд? І якім жа чынам палякам удалося выратавацца?

*(Працяг будзе)*

# ПАМЯЦІ Анатоля САПЕТКІ



Памёр Анатоль Канстанцінавіч Сапетка. Ён быў з тых рэдакцыйных работнікаў, чыя праца, як кажуць, не на самым відавоку, хоць і залежыць ад яе вельмі многае. Анатоль Канстанцінавіч доўгія гады быў лімаўскім мастаком-афармiцелем. Вельмі надзейным, пунктуальным, надзеленым добрым мастацкім густам.

Полем яго дзейнасці былі не толькі газетныя старонкі. Член Саюза мастакоў Беларусі, А.Сапетка афарміў нямала кніжак, часопісных публікацый.

Падпольшчык, франтавік у гады Вялікай Айчыннай вайны Анатоль Канстанцінавіч быў яшчэ і проста вельмі прыстойным, крыштальна сумленным і чулым чалавекам.

Памяць пра Анатоля Канстанцінавіча Сапетку будзе жыць у сэрцах ягоных сяброў, ва ўсіх, хто яго ведаў і паважаў.

**ЛІМАЎЦЫ**

Кіно

# АДСУМАВАЛІ ПА НОВЫМ ЗМЕСЦЕ?..

Нядаўна адбылася падзея, важная для нашай культуры — першы выпуск сцэнарнага факультэта Беларускай акадэміі мастацтваў. У беларускае кіно прыйшло 7 маладых драматургаў.

Апошні час наш кінематограф сумуе па новым змесце, а ў кіно ўсё пачынаецца з драматургіі. Не толькі ў тым сэнсе, што без выдатнага сцэнарыя не можа быць добрага фільма. Але і ў тым, што драматургія з самага пачатку задае і вызначае ўзровень сацыяльнага мыслення, які — лепей ці горай — увасабляецца на экране. А між тым вартых сцэнарыяў значна паменела: угадваецца тое, што ўжо напісана, сыграна...

Добра разумеў гэта становішча кінарэжысёр Віктар Тураў, калі два гады таму набраў групу сцэнарыстаў у сваю творчую майстэрню, што ўзнікла пры акадэміі мастацтваў. Гэта быў своеасаблівы эксперымент — дагэтуль сцэнарыстаў рыхтаваў толькі расійскі ВГИК. Таму можна сказаць, што першы "свой" выпуск — падзея для беларускага кінематографа.

Яны прыйшлі ў кінадраматургію з самых розных прафесій. Гэта людзі рознага жыццёвага вопыту, са сваім уласным светапоглядам, спосабам абыходжання з жыццёвым матэрыялам, узроўнем літаратурнага майстэрства. Іх абʼядноўвае імкненне адлюстраваць сваё бачанне жыцця сродкамі кіно.

Зразумела, сцэнарыі, якія былі прадстаўлены на суд строгай, але добразычлівай экзаменацыйнай камісіі, істотна адрозніваліся як па тэматыцы, так па жанрах.

Дыпломная работа Вольгі Шчукінай "Шэльма" поўная драматычных эпізодаў. Па меркаванні В.Турава, у ім ёсць спроба паяднаць чалавека з тым, што мы бачым вакол сябе. Жанр сцэнарыя не зусім акрэслены, і гэта зразумела: кіно часам патрабуе раскутасці, разнявolення ў арганізацыі сюжэтных ліній, характараў. Тым не менш, Міхаіл Шэлехаў, вядомы кінадраматург, адзін з тых, хто браў удзел у навучанні маладых сцэнарыстаў, звярнуў увагу на існуючую праблему жанру. Калі раней жанравыя межы былі размытыя, дык сённяшняя сітуацыя ў кінематографе вымагае больш жорсткіх рамак. Нягледзячы на жанравую раскутасць, сцэнарый В.Шчукінай атрымаў станоўчы водгук, асабліва адзначана... добрая беларуская мова.

Аляксандр Богдан прыйшоў на сцэнарны факультэт як тэатральны драматург. Тэма яго дыпломнай работы — "просты чалавек у няпросты час". "Жук" — гісторыя валацужнага сабакі і — паралельна — лёс беспрытульнай дзяўчыны. Сцэнарый дае шмат магчымасцей для рэалізацыі гэтай чуллівай гісторыі на экране, але самі гэтыя магчымасці да канца не прапрацаваныя, магчыма, з-за змяшэння аўтарам тэатральнай і кінематаграфічнай спецыфікі. Рэцэнзент Фёдар Конеў адзначыў перспектыўнасць аўтара і падкрэсліў, што галоўнае ў прафесіі сцэнарыста — заўсёды "гарэць ідэямі".

Сцэнарый Сяргея Русаковіча "Спакуса жыцця" выяўляе адметнае рэжысёрскае мысленне з некаторай доляй інтымнасці. Інтымнасць, у сваю чаргу, выяўлена знарок простай мовай. Рэцэнзент Аляксандр Яфрэмаў, рэжысёр і мастацкі кіраўнік Тэатра-студыі кінаакцёра, назваў гэтую работу "з'явай маральнасці" і пажадаў маладому драматургу большай волі і вынаходлівасці, а таксама больш уважлівасці да другарадных ліній.

Дыпломнай работай Анатоля Шымаганца стала меладрама "Сузор'е Рака". Гэта трапяткая гісторыя пра вечныя каштоўнасці, пра жыццё, схаванае ад пабочных позіркаў. Тут прысутнічае далікатны аналіз пачуццяў і адчуванняў, што гаворыць аб эрудыцыі аўтара, складанасці яго душэўнага свету. Анатоль "працуе" ў прыглушаных танах і падчас яго манера сцэнарыста залішне сентыментальнай. Але А. Яфрэмаў ацаніў сцэнарый як вельмі спрыяльны матэрыял для рэжысёраў, які здольны вытрымаць любую крытыку, бо нясе ў сабе зарад эстэтычнай культуры.

Трое астатніх сцэнарыстаў не прысутнічалі на уласным выпуску, і ўсе — па творчых прычынах. Андрэй Арцёменка і Таццяна Уладзімірава вырашылі прадоўжыць сваю сцэнарную адукацыю і здавалі ў гэты час уступныя экзамены (Андрэй — у Мюнхене, Таня — у Маскве), а Аркадзь Груздоў быў заняты канкрэтным увасабленнем сваёй работы: яго сцэнарый прыняты да пастаноўкі на "Масфільме". Іх работы таксама разглядаліся падрабязна.

Аўтарскі свет Таццяны Уладзіміравай асаблівы. Нягледзячы на вельмі юны для драматурга ўзрост, яе патэнцыяльныя магчымасці ярка праявіліся ў камедыі "Шнуркі". Ёй уласціва далікатнае драматургічнае пачуццё — яна ўмее прыўнесці ў сцэнарый трапяткое "ледзь-ледзь", без якога няма добрага густу. Мяккі гумар і цэльнасць асобы аўтара — цудоўнае набыццё для беларускай кінадраматургіі.

Першая спецыяльнасць Андрэя Арцёменкі выдатна дапаўняе прафесію кінасцэнарыста. Андрэй — добры скрыпач, скончыў кансерваторыю і, несумненна, музычная адукацыя дапаможа яму больш чуйна і глыбока разумець жыццё ў кінематографе. Гэта чалавек таленавіты, мысляр і рамантык. Сцэнарыст і рэдактар Вера Ганчарова адзначыла яго асаблівую манеру пісьма — хранікальную. Андрэй прадставіў галерэю партрэтаў маладых людзей, якіх сам меў магчымасць назіраць, падарожнічаючы па Еўропе. І ўсё гэта вытрымана ў адзіным стылі! Мо гэта таксама вынік музычнай стройнасці мыслення?..

Пра Аркадзя Груздова В.Тураў сказаў: "У нас з'явіўся "хуліган". Аркадзь скончыў Львоўскую цыркавую вучэльню, а на сцэнарны факультэт прыйшоў з дзіцячымі казкамі і апавяданнямі. Яго дыплом напісаны ў складаным жанры камедыі. Аўтар "Эльдарада" добра разумее прыроду гумару, з бляскам вырашае заблытаныя сітуацыі, аднак часам занадта захапляецца буйнымі характарамі.

Аналізуючы дыпломныя работы маладых сцэнарыстаў, можна заўважыць адну асаблівасць: сярод іх не было ніводнай выпадковай, і ўсе ўладальнікі дыпломаў людзі таленавітыя. А да таленту дадаюцца добрыя вочы... Магчыма, менавіта іх бракуе сёння нашаму кінематографу?

Увесь курс залічаны ў штат студыі "Беларусьфільм".

**Наталля ЕЎДАКІМАВА**

Адгалоскі

**У N 21 "ЛіМа" за 26 мая 1995 г. апублікаваны артыкул С.Васілюка з Гайнаўкі "І не "адзіная", і не "самая", у якім аўтар выступае супраць тэндэнцыйнасці ў асвятленні царкоўнай уніі 1596 г. у беларускім друку. На мой погляд, змагаючыся з тэндэнцыйным асвятленнем гэтай гістарычнай падзеі, аўтар і сам дапускае шмат тэндэнцыйнасці.**

# ДАВАЙЦЕ БЕЗ ТЭНДЭНЦЫЙНАСЦІ

Каб не даваць падстаў для домыслаў, адразу падкрэслю, што я праваслаўны, гэтаксама, як мае дзед і бацька былі праваслаўнымі, і я не мяняю веравызнання, лічу, што Бога трэба мець у душы, а не напааз у той ці іншай царкве.

Спадар Васілюк, на жаль, дапускае "нацяжкі" і вольныя доказы, пра што маўчаць проста немагчыма. Бо калі б змаганне з уніяй не насіла палітычны характар, не мела мэтаю русіфікацыю беларускага і ўкраінскага насельніцтва, то нашто была патрэбная акцыя па зліцці уніяцкай і праваслаўнай цэркваў атэісту Сталіну? Рэлігія — опіум для народа, але няхай рэлігійны кайф будзе ад праваслаўя, чым ад уніяцтва. Чаму? Ды таму, што уніяцтва дазволіла захаваць нацыянальную адметнасць украінцам на Валыні і Падоллі, і гэты "нацыяналізм" не падабаўся "інтэрнацыяналісту" Сталіну, па прыкладзе Беларусі ён ведаў, што з ліквідацыяй уніяцтва і падпарадкаваннем веруючых рускай праваслаўнай царкве насельніцтва становіцца больш лаяльным да маскоўскае ўлады. А тое, што "да невыбачальнага граху і найцяжэйшага злачынства — паводле хрысціянскіх законаў — залічваецца менавіта выкарыстоўванне рэлігіі ў палітычных мэтах", як піша сп.Васілюк, дык гэтага "граху" ніхто не баяўся раней і не баіцца зараз. Бо і зараз пасіўнае супраціўленне праваслаўнага духавенства беларусізацыі зусім не такое апалітычнае, як можа падацца з першага погляду. Гаворка з пеўчымі, актывам веруючых вядзецца выключна на рускай мове, і гэта мае тую ж мэту, што і перавод беларускіх школ на рускую мову навучання пасля вайны — далучэнне насельніцтва да "больш культурнай мовы", у выніку чаго і паўстае "трасянка". Бо як жа будзеш святару адказваць на беларускай мове, калі ён да цябе звяртаецца на "больш культурнай" рускай? Вось і стараецца бабуля адказваць "культурна", калечачы словы, якія ўжывае штодня дома. Як бы ні ўсміхаўся нехта з былых атэістаў, а ўплыў духавенства на веруючых бабуль і дзядуль большы, чым дзяржаўных (аплачваемых дзяржаваю) партыйных агітатараў 10-20 гадоў таму. І зусім невыпадкова свядомыя беларусы праваслаўнага веравызнання галасавалі супраць таго, да чаго заклікаў БНФ. Нехта ж уклаў у гэтыя галавы, што БНФ — гэта паланізацыя, садзейнічанне акаталічванню і саюз з менш магутнай эканамічна Польшчай, а нам больш карысны саюз з багатай Расіяй. Так што "перамога" чырвоназялёнага прэзідэнцкага сцяга і адказ "так" на іншыя пытанні рэферэндуму не адбыліся і без уплыву тых, для каго "выкарыстоўванне рэлігіі ў палітычных мэтах — невыбачальны грэх".

Мне было наканавана лёсам працаваць з украінцамі Прыкарпацця і Валыні, і я павінен быў вывучыць украінскую мову, бо па-руску яны "не разумелі" і загады не выконвалі. Тое, што малапісьменны ўкраінец з-пад Тарнопаля добра ўсведамляў, што ён не паляк і не рускі — гэта вынік таго, што ён меў "сваю" рэлігію і "сваіх" святароў-украінцаў, якіх не вучылі ў семінарыях выпускнікі маскоўскіх ды ленінградскіх духоўных семінарый. Параўнаем паводзіны чэхаў і ўкраінцаў (заходніх). Воляю суседніх дзяржаў і тыя і другія аказаліся пад уладаю каталікоў-аўстрыякаў. Каталікі-чэхі значна анямечыліся перад першай сусветнай вайной, да чаго не дайшло сярод уніятаў-украінцаў. І гэтага баяўся атэіст Сталін, якому трэба было стварыць новую супольнасць — савецкі народ. А рэлігія заходніх украінцаў дазваляла ім захаваць сваю адметнасць. Таму і падтрымлівалася дзейнасць Ярослава Галана, барацьба якога з уніяцтвам мела палітычную накіраванасць. Па-дзеі падчас гарбачоўскай перабудовы на Заходняй Украіне паказалі, што зліццё уніяцтва з праваслаўем пасля вайны насіла прымусовы характар, праводзілася пад націскам камуністычных улад, бо, адчуўшы сапраўдную свабоду веравызнання, уніяты Украіны вярнуліся да веры продкаў. Заходнія ўкраінцы настолькі захавалі сваю этнічную адметнасць, што, скажам, А.Салжаніцын лічыць іх нават не ўкраінцамі, бо гэтаму рускаму патрыёту, амаль шавіністу, больш даспадобы ўкраінцы, якіх 350 гадоў русіфікавалі пад уладаю цароў і правадыроў. Я лічу, што гэтаму садзейнічала магчымасць захаваць да 1948 года "сваю", адметную ад суседзяў, рэлігію.

Працаўнікі уніяцтва даказваюць, што ўвядзенне уніі мела мэтаю паланізацыю і каталізацыю беларусаў і ўкраінцаў. Не пазбег гэтага міфу і сп.Васілюк, які піша: "Навязваючы нашым продкам унію, каталіцкаму кліру і ўладам Першай Рэчыпаспалітай рупіла тое, каб праваслаўную Беларусь і Украіну падпарадкаваць Ватыкану і гэтым самым мацней звязаць іх з суперкаталіцкай Польшчай". Я маю падставы лічыць, што справа тут не аб падпарадкаванні далёкаму Рыму, а аб адрыве ад уплываў блізкай Масквы. Бо калі і зараз уплыў праваслаўнага духавенства на павышэнне сімпатый да Масквы нельга недаацэньваць, то які ж ён быў, той уплыў, на пагалоўна непісьменную паству 400 гадоў таму! Менавіта праз духавенства Расія ўплывала на падзеі ў той самай Рэчыпаспалітай, аб якой піша сп.Васілюк. Вялікі рускі паэт А.Пушкін пісаў аб гэтым так:

"Но Георгий (Канінскі. — **А.Б.**) есть один из самых достопамятных мужей минувшего столетия. Жизнь его принадлежит истории. Он вступил в управление своею епархией, когда Белоруссия находилась еще под игом Польши. Православие было гонимо католическим фанатизмом. Церкви наши стояли пусты или отданы были униатам. Миссионеры насильно гнали народ в униатские костелы, ругались над ослушниками, секли их, заключали в темницы, томили голодом, отымали у них детей, дабы воспитывать их в своей вере..." (І гэта ўсё пры царстваванні Кацярыны ІІ, праз 200 гадоў пасля абвяшчэння уніі? Нешта не хочацца верыць Аляксандру Сяргеевічу, — **А.Б.**) Георгий искал защиты у русского правительства; **он доносил** обо всем св.синоду и жаловался нашему посланнику, находившемуся в Варшаве...

Дерзость гонителей час от часу усиливалась. Польское правительство им потворствовало. Миссионеры своевольничали, поносили православную церковь, лестью и угрозами преклоняли к унии не только простой народ, но и священников.

**Георгий снова жаловался России.** (А чаму не ў Грэцыю ці ў Сербію? — **А.Б.**) Императрица Елисавета Петровна, перед самой своей кончиною, и государь Петр III при своем восшествии на престол, требовали от польского двора, чтоб гонения над нашими единоверцами были прекращены; но избавление православия предоставлено было Екатерине II.

Георгий предстал перед нею в 1762 году в Москве, когда она корсновалась, и вслед за русским духовенством принес ей вместе с поздравлениями тихие сетования народа (??? — **А.Б.**), издревле нам родного, но отчужденного от России жребиями войны. Екатерина с глубоким вниманием выслушала печальную речь **представителя будущих ее подданных**, и когда, несколько времени спустя, св.синод думал вызвать Георгия и поручить в его управление Псковскую епархию, **императрица на то не согласилась и сказала: "Георгий нужен в Польше"**. (У якасці каго: даносчыка, падбухторшчыка? Архіепіскап Беларусі патрэбны быў не святому сіноду ў Беларусі, а менавіта царыцы, якая рыхтавала захоп гэтых земляў. Дык якія функцыі выконваў вышэйшы іерарх рускай праваслаўнай царквы на нашых землях: рэлігійныя ці палітычныя? — **А.Б.**)...

**...Георгий, один из первых членов Слуцкой конфедерации,** определен был в члены сей комиссии. Он опять отправился в Варшаву и деятельно занялся объяснением древних грамот, на коих основаны были права диссидентов...

...Между тем Барская конфедерация, поддерживаемая политикою Шуазеля, воспламенила новую войну. Следствием оной был первый раздел Польши. Семь областей **древнее достояние нашего отечества** (цікава, калі сем абласцей Беларусі належалі Маскоўшчыне? — **А.Б.**), были ему возвращены — и в 1773 году Георгий явился перед Екатериною уже как подданный, радостно приветствуя избавительницу и законную владычицу Белоруссии. (А.С.Пушкін, Поўны збор твораў у шасці тамах. Дзярж. выд. мастацкай літаратуры, Масква, 1950 г., том. 6, стр.42-44).

Дык кім быў архіепіскап (арцыбіскуп) Беларусі Георгі Каніскі, якога сучасныя русіфікатары Беларусі робяць амаль святым? Духоўным настаўнікам ці палітыкам? Мяркую, адказ адназначны. Ды і ад імя якога народа ён мог выступаць перад рускімі царамі, калі 80 працэнтаў насельніцтва Беларусі было уніятамі? Гэта такое самае выступленне ад імя народа, як і сучаснага Сабора "Белая Русь". І тут мае рацыю сп.Васілюк, што "рэлігія была выкарыстана імі ў дасягненні гэтых палітычных мэт". А выніку гэтай палітычнай барацьбы мы бачым сёння, бо там, куды рукі царызму не дацягнуліся і унія засталася рэлігіяй народа, нацыянальная самасвядомасць людзей значна вышэйшая, чым у нас, дзе унія была скасавана, дадаўшы свету праваслаўных і каталікоў, якія і пры царызме апалячваліся. І не выключана, што сучасныя палякі Гародні 90 гадоў таму былі уніятамі-беларусамі. Дык каму на карысць была барацьба з уніяцкімі "адшчапенцамі"? Напэўна, не беларускаму народу. Бо уніяцтва захоўвала беларускасць, чаго не скажаш аб праваслаўі нават сёння.

Гэта сцвярджаў нават у бальшавіцкай Беларусі Аляксандр Цвікевіч у сваёй кнізе, выдадзенай у 1929 годзе, — "Западно-русизм": нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX ст.". Ён сцвярджае: "Як у кожнай вуніяцкай сям'і таго часу, так і ў сям'і Каяловіча захаваўся амаль у незакранутым выглядзе стары беларускі быт, беларуская мова, старадаўнія звычаі, успаміны". У сваёй працы А. Цвікевіч спасылаецца і на запісы І. Сямашкі, жыўшага ў XIX ст., які пісаў: "Увесь грэка-уніяцкі народ размаўляе мовай беларускай, альбо маларасійскай, дзеці уніяцкага духавенства ў доме сваіх бацькоў і па-за ім амаль выключна чуюць гэту мову..." І гэта не адзінае сведчанне.

А наконт шкоднасці уніі, якую быццам бы Павел Асеніца назваў вар'яцтвам, — гэта залежыць ад таго, з якога боку глядзець. Для русіфікатараў, кшталту Георгія Каніскага, — напэўна. А вось з такім тэзісам С.Васілюка: "Найбольшае, аднак і невыбачальнае зло уніі заключаецца ў тым, што праз яе свядома быў запачаткаваны падзел аднаго, па натуры сваёй добрага і спакойнага народа на тры ўзаемаварожыя свядомасці: праваслаўную, уніяцкую і каталіцкую, з ліквідацыяй якога беларусы справіцца не могуць і па сёння", — не магу пагадзіцца. А чаму не ўзнікла ў народзе варожасці, калі князь Мікалай Радзівіл Чорны прапагандаваў і ўводзіў рэфармацыю ў выглядзе яе плыні — кальвінізму? Сымон Будны выкладаў катэхізіс у Вільні і Клецку, друкаваў кнігі рэлігійнага зместу на тагачаснай беларускай мове і нідзе няма сведчанняў таго, што ў грамадстве тады ўзнікла варожасць. Наадварот, пашыралася адукацыя народа, бо рэлігійная прапаганда вялася друкаваным словам, кальвіністы адкрывалі школы, каб замацаваць свае погляды сярод моладзі — будучыні народа. А пасля: чаму сп.Васілюк піша аб трох узаемнаварожых свядомасцях? Ці ж уніяцтва — гэта ўжо не каталіцызм з грэцкай абрадавасцю?

Сваю думку аб "шкоднасці" уніі сп.Васілюк распаўсюджвае нават на лёс польскай дзяржавы. Не свавольства шляхты, так добра апісанае А.Міцкевічам у паэме "Пан Тадэвуш", не прарускія і незалежніцкія канфедэрацыі Барская, Таргавіцкая і г.д. паўплывалі на знікненне Рэчыпаспалітай з карты Еўропы, а царкоўная унія. Гэта нешта новае. Мне здаецца гэта самай вялікай "нацяжкай" у доказах аўтара артыкула, хаця я не ўпэўнены, што чалавек, хрышчоны ў праваслаўнай царкве, павінен быў "перахрышчвацца" на уніята. Што ва уніятаў, якія захавалі ўсходні абрад, хрышчэнне адбывалася інакш, чым у праваслаўных? Не ўпэўнены. А сп. Васілюк піша, што беларусы яшчэ доўга будуць адчуваць "дабрадзействы" перахрышчэнняў. Не ведаю, але мне здаецца, што аўтар артыкула памыляецца, альбо выбраў не тое слова для абазначэння змены веравызнання.

Я не маю багаслоўскай адукацыі, таму мае доказы мо не надта "навуковыя". Але я працаваў з людзьмі, якія захавалі рэлігію продкаў ад XVI стагоддзя, і бачыў, меў магчымасць параўноўваць іх нацыянальную самасвядомасць з нашай беларускай. Засталіся б мы уніятамі — вынікі прэзідэнцкага рэферэндуму былі б зусім іншымі.

Таму я лічу, што царскі гвалт над уніяцтвам быў не гвалтоўным аднаўленнем спрадвечнага веравызнання, а быў гвалт палітычны, на патрэбу імперыі, а не людзей.

**Аляксандр БАХАНЧЫК,**
**пенсіянер**

*Гарадзея,*
*Нясвіжскі раён*

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

*Х.Дунец (1932-35)*
*І.Гурскі (1935-41)*
*А.Куляшоў (1945-46)*
*М.Горцаў (1947-49)*
*П.Кавалёў (1949-50)*
*В.Вітка (1951-57)*
*М.Ткачоў (1957-59)*
*Я.Шарахоўскі (1959-61)*
*Н.Пашкевіч (1961-69)*
*Л.Прокша (1969-72)*
*Х.Жычка (1972-76)*
*А.Асіпенка (1976-80)*
*А.Жук (1980-86)*
*А.Вярцінскі (1986-90)*

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Жана ЛАШКЕВІЧ
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА
Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7235.
Нумар падпісаны 31. 8.1995 г.
ЗАКАЗ 3527
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12